PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 16 (1979) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 17 КРАСАВІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Хаця гаспадароў ужо няма, клуня пратрымаецца яшчэ некалькі гадоў.*

## НАШ КАСЦЮШКА СЛАЎНЫ БЫЎ

*І маскаля крэпка біў.*

Баюся, што гэтых двух радкоў народнай беларускай песні хопіць многім тутэйшым беларусам, каб адмоўна паставіцца да асобы героя гэтага артыкула. Тым часам шырокія грамадскія колы ў Беларусі (вядома, з апазіцыі) задумалі ўрачыста адсвяткаваць 200 угодкі ўзнятага Касцюшкам паўстання. Начальнік гэтага паўстання разглядаецца як кандыдат на патрона беларускай арміі (прынамсі яе інжынерскай часткі). Яго асоба мае замяніць асобу расейскага палкаводца Суворава, чый культ насаджаны быў на Беларусі камуністычнай уладай. Сувораў, дарэчы, задушыў паўстанне Касцюшкі.

Беларускае грамадства навобмацак шукае сваёй гістарычнай традыцыі, кідаючыся з адной крайнасці ў другую: ад усхвалення „адвечнай цягі да Расіі”, да атаясамлівання Беларусі з Літвой і адкідання ўсяго, што пахне Руссю. На мой погляд, чакае нас доўгі перыяд роздуму над сутнасцю нашай гісторыі і кожны яе фрагмент павінен вельмі ўважліва разглядацца. Тое самае тычыцца выдатных гістарычных персанажаў. Гаворачы проста, мусім падрабязна разабрацца: наш ён, ці не наш, каб не ставіць новых куміраў.

Хто ж тады быў Тадэуш Касцюшка?

Пачнем з таго, што ніякі ён не Тадэуш, але Андрэй Фадзей Банавентура. Няма таксама ўпэўненасці, дзе і калі ён нарадзіўся. Называюцца дзве мясцовасці: Сяхновічы пад Кобрынам і Марачоўшчына каля мястэчка Косава. Даты нараджэння таксама падаюцца дзве: 30 лістапада 1745 г. і 4 лютага 1746 г. Усю нераэбярыху з імем, месцам і датай нараджэння Касцюшкі можна растлумачыць толькі яго паходжаннем.

Род Касцюшкаў (нашчадкаў нейкага Косці, значыцца Канстанціна) вядомы з 1458 г. Касцюшкі былі спачатку праваслаўнымі, але цераз кальвінізм перайшлі ў каталіцызм. Бацька нашага героя, Людвік, ажаніўся з Фёклай (Тэкляй) з роду Ратамскіх, якія прытрымоўваліся цвёрда „благачэсця”.

Такім чынам Касцюшка нарадзіўся праўдападобна ў Сяхновічах і ахрышчаны быў у праваслаўнай царкве Андрэем, у гонар апостала Андрэя Першазванага, чыё свята прыпадае якраз на 30 лістапада. У наступным годзе, падчас побыту ў Марачоўшчыне, яго паўторна ахрысцілі 4 лютага ў косаўскім касцёле. Стуль Фадзей ды Банавентура. Падвойнае хрышчэнне (часам толькі складалася фіктыўная каталіцкая метрыка) часта практыкавалася праваслаўнымі жыхарамі Рэчы Паспалітай, у якой поўныя правы прыслугоўвалі тады толькі католікам.

Фадзеем называю Касцюшку таму, што ён сам так сябе называе ў сваіх адозвах, пісаных „буквамі”.

Пачаўшы паўстанне, Касцюшка выдаў славуты Паланецкі універсал, якім абвяшчалася апека ўрада над сялянамі. Менш вядома, што таго ж дня, 7 мая 1794 года, з'явіўся зварот Касцюшкі да праваслаўнага духавенства. У гэтым звароце начальнік абяцаў, што праваслаўныя святары, якія з'яўляюцца „маскоўскімі нявольнікамі”, у выніку перамогі паўстання стануць „святарамі паважанымі”, „братамі і суайчыннікамі”. Напомню таксама, што згодна з пастановамі Чатырохгадовага сейма, прадстаўнікі Праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай на з'ездзе ў Пінску ў 1791 г. абралі свае незалежнае кіраўніцтва і калі б не вайна 1792 г. (г.зв. вайна ў абароне Канстытуцыі 3 Мая) і чарговы падзел Рэчы Паспалітай, праваслаўныя мелі б да гэтага часу лепшае забеспячэнне і сваю царкоўную іерархію, ды „не цярпелі б надалей на чале царквы жанчыны, як дагэтуль, хаця гэта выразна супярэчыць святой веры і канонам святых айцоў”. Маецца тут на ўвазе царыца Кацярына II як галава Свяшчэннага сінода Рускай царквы.

Як добры прыклад грамадзянскага духу і разумнай палітыкі Касцюшка даў у звароце да берасцейцаў ад 15 мая факт выбрання васьмі праваслаўных сяброў у Берасцейска-кобрынскую паўстанцкую парадкавую камісію і заклікаў рабіць тое самае ўсюды, дзе знойдзецца дастаткова людзей гэтага веравызнання.

Па даручэнню Касцюшкі Найвышэйшая Нацыянальная Рада ў Варшаве даверыла 14 чэрвеня С. Пальмоўскаму, намесніку Рады і старшыні Праваслаўнай кансісторыі, давесці да ведама праваслаўнага духавенства, што праваслаўным у Рэчы Паспалітай гарантуюцца свабода веравызнання і роўныя грамадзянскія правы.

Няўжо ж была гэта толькі тактыка? Ніякім чынам. Праўду кажучы, праваслаўныя не прадстаўлялі тады ніякай

☞ *Працяг на стар. 5*

## ТУРМА: НОВАЕ ТХНЕННЕ

У адной з лютаўскіх „Ніваў” пісаў я пра вёску Кожына і пра турму ў ёй. Раней на гэтым месцы знаходзілася школа, у пабудову якой сваю працу ўклала таксама мясцовае грамадства. Калі, аднак, колькасць дзетак у школьным узросце ў вёсцы паменшала, школу зачынілі — дзеткі, якія ў Кожыне яшчэ засталіся, пайшлі вучыцца ў Пасынкі. У палове васьмідзесятых гадоў школу перабудавалі на турму — працавала яна ў 1986-89 гадах. Хаця ўвядзенне турэмшчыкаў у Кожына і было прычынай трапнага хвалявання ў вёсцы, людзі неяк з новай установай зжыліся. Вязні сядзелі пад ключом, час ад часу падмялі вуліцу, павялічыўся абарот у мясцовай краме — з турмы ішлі рэгулярныя заказы, а ў нядзелі наязджала ў Кожына поўна народу, да турэмшчыкаў у адведкі.

Але, вось, пяты ўжо год паслятурэмны аб'ект пустуе. У апошні час з'яўляюцца канцэпцыі яго добраўпарадкавання. Беластоцкі следчы арышт доўгі час намагаўся вярнуць гэту маёмасць дзеля сваіх патрэб. Фармальным уласнікам будынка з'яўляецца гміна Бельск-Падляшскі. Паводле прадстаўнікоў беластоцкага арышту якраз войт стаў блакаваць іхнія дзеянні — не адказваў на пісьмы. Людзі ў Кожыне, быццам прыхіляюцца, каб аднавіць у іхняй вёсцы турму — ведаюць, прынамсі, чым гэта пахне. Войт гміны Бельск, Юры Ігнацюк, афіцыйна сваёй думкі наконт кожынскай турмы не мае, але, паводле кожынцаў, няраз прыязджаў у Кожына з нейкімі прадстаўнікамі, вадзіў іх па турме ды нешта там супольна абмяркоўвалі. Кожынцы сталі пранюхваць у гэтым нейкі „бізнес”.

Пераломам, як здаецца, у гэтай справе стаў візіт на Беласточчыне віцэ-прэм'ера і міністра юстыцыі ў адной асобе. Міністр юстыцыі адведаў як беластоцкі арышт, так і вёску Кожына („нельга было дапусціцца, а мы ж так на яго галасавалі”). З'явіліся новыя меркаванні наконт кожынскай турмы. Адзін з магчымых варыянтаў такі: турму купіць Міністэрства юстыцыі, а затым перадасць яе ў арэнду МОНАРу, які і парупіцца пра новых кватарантаў. Людзі ў абліччы такой развязкі, як і заўсёды перад чымсьці новым, перш за ўсё выказваюць сваю занепакоенасць — лепшая турма за СНІД (AIDS) ці наркотыкі.

Час ад часу ў грамадскай думцы Беласточчыны ўзнікаюць розныя цікавыя канцэпцыі ў справе добраўпарадкавання Усходняй Сцяны. Хай тут засееца пушча, — гаварыла аўтарка аднае з іх, — а тады ўсё гэта пяроймем мы ды будзем урэшце мець гігантскае „вчасовіско” ў Еўропе. Што ж, пушча пэўна і так зашуміць, але вось, на прыкладзе Кожына, нараджаецца і іншая думка — „гіганцкі выцвярэзнік”. Трэба ж узяць пад увагу, што кожынская школа-турма не адна сярод школ, якія тут пустуюць. Засяленне іх наркаманамі з вялікіх гарадскіх агламерацый Польшчы разгрузіць у нейкай ступені грамадскую фрустрацыю ў гэтых жа агламерацыях. Ці будзе якая карысць ад гэтага беластоцкім сялянам? Можа засеюць мак... Напэўна, аднак, зразумеюць, навошта на свеце самаўрадавыя выбары і свой гаспадар у гміне.

**А. МАКСІМЮК**

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W Białymstoku przebywała delegacja dziennikarzy i deputowanych do parlamentu Białorusi. Delegacja odwiedziła także redakcję tygodnika „Niwa” oraz siedzibę BTSK. Michał Bocian, dyrektor Narodowego Centrum Prasowego w Mińsku zauważył, że białoruska świadomość narodowa na Białostocczyźnie zanika, co uznał za zjawisko normalne.*

*(Kurier Poranny, nr 61)*

* * *

*W środowisku wojskowym Białegostoku przeprowadzono sondę na temat ilości żołnierzy wyznania prawosławnego. Przynależność do prawosławia zadeklarowało 30 żołnierzy zowodowych. Ze służby zasadniczej nie zglosił się nikt. Według danych Cerkwi w Polsce jest około 15 tys. prawosławnych żołnierzy. Gdzie oni są? Czemu ukrywają, w demokratycznej Polsce, swe wyznanie? To zagadka.*

*(Przegląd Prawosławny, nr 4)*

Трэба быць мазахістам, каб прызнавацца праваслаўнаму ці беларусу да свае нацыянальнасці ці веравызнання будучы сярод калегаў выхаваных у традыцыі „талерантнасці, дэмакратыі і хрысціянскіх вартасцяў”.

* * *

*Po prawej stronie polskiej sceny politycznej istnieje też problem głupoty* — сказаў лідэр ПЦ Яраслаў Качынскі.

* * *

*Zaledwie 10 osób przybyło na zebranie Komitetu Obywatelskiego Ziemi Białostockiej.*

*(Gazeta Współczesna, nr 61)*

У 1990 г. Грамадзянскі камітэт выйграў камунальныя выбары ў Беластоку. Сёння таксама пра гэта думае. Не хапае толькі кандыдатаў на райцаў.

* * *

*Dla wielu związanych z katolicyzmem ludzi, zajmujących się tematyką erotyczną, zmiany obyczajowe ostatnich lat wiążą się z uprzedmiotowieniem człowieka, dewaluacją pojęć i uczuć, degradacją samej osoby. W szczególny sposób nagość kobiety jest nadużywana, a nagość nie może być zwyczajna.*

*(Rzeczpospolita, nr 72)*

Не хапае толькі вырашальнага голасу, ці чалавек, які распранаецца, каб улезці ў ванну, дэградуе сваю асобу, ці яшчэ не.

* * *

*Kazimierz Piotrowicz wynalazł wkładki do obuwia, którymi leczy wszystkie choroby. Wkładki wsuwa się pod skarpetę i żegnajcie wszelkie przypadłości chorobowe. Leczyć w ten sposób można nawet chorych na AIDS.*

*(Rzeczpospolita, nr 69)*

Пару гадоў таму назад усе хваробы лячыў нейкі Анатоль Кашпіроўскі. Цяпер будзе яшчэ лягчэй пазбыцца ўсіх хваробаў, хапае мець толькі 35 тыс. злотых і купіць кавалак магічнай анучкі.

* * *

*Głosując za niepodległością Ukrainy w 1991 r. ludzie uważali, że gdy odetną się od moskiewskiego centrum, automatycznie poprawi się ich położenie materialne. Kilkudziesieciokrotny wzrost cen w ciągu ostatniego roku zrobił swoje. Teraz mieszkańcy Ukrainy coraz częściej zerkają na sąsiednią Rosję, postrzeganą jako oaza stabilnych cen i wysokich zarobków.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 72)*

* * *

***Імкненьне кіраўнікоў Беларусі да вяртаньня „ва ўлоньне” Расейскай імперыі для дэмакратаў зьяўляецца нармальнай здрадай. Для камуністаў гэта нармальны працэс. Зразумела, што гэта звыклая здрада. Народ рэагуе на продаж Беларусі маўклівай згодай, бо ня ведае, што прадаюць і за якую цану. У народнай сьвядомасьці няма хоць нейкага стэрэатыпу радзімы, якая не прадаецца.***

***(Свабода, н-р 11)***

Не кідайцеся ў паніку, хлопцы, на шчасце Расея не мае грошай, каб нешта купіць, нават за марную цану.

* * *

*Żyrinowski może głosić swoje faszystowskie brednie tylko w warunkach swobody słowa i czynów. Nie w pełni sprawdziło się przekonanie, że demokratyczny ład ułatwia prowadzenie gigantycznych reform gospodarczych, wyzwala inicjatywę ludzką. W Chinach, w których panuje dyktatura i w których brak wolności słowa, rozwój gospodarczy jest niewątpliwy. Kraj ten osiągnął trzynastoprocentowy wzrost dochodu narodowego. Tymczasem demokratyczna lub półdemokratyczna Rosja tonie w chaosie i nędzy.*

*(Wprost, nr 13)*

Там жа:

*W ubiegłym roku wykonano w Chinach ponad tysiąc egzekucji, a tortury są powszechnie stosowaną metodą wymuszania zeznań.*

* * *

*Prezes Rady Ministrów powołał z dniem 25 marca Adama Dobrońskiego na stanowisko kierownika Urzędu do spraw Kombatantów i Osób Represjonowanych.*

*(Kurier Poranny, nr 62)*

Вялікі „сябра” беларусаў, „наш пасол” будзе цяпер міністрам. Але магло быць горш. Пан Адам мог бы, напрыклад, стаць беластоцкім ваяводам.

* * *

*Z jednej strony ster trzyma postkomuna, chociaż marszałek Sejmu żarliwie modli się na Jasnej Górze, z drugiej zaś ludziom żyje się coraz gorzej, bo ten rząd najbardziej się modli i dywaguje na temat Konkordatu, niż rozwiązuje problemy i przestrzega ustaw. Ocipieć można!*

*(Kurier Podlaski, nr 59)*

І на каго тут галасаваць у наступных выбарах?

* * *

*Bank Centralny dobija polskie banki i zmierza do wywołania chaosu finansowego w kraju, być może z pobudek politycznych. Trudno przecież nie brać pod uwagę faktu, że stanowisko prezesa NBP obsadzone jest przez jedną z ostatnich już osób wiernych prezydentowi.*

*(Wprost, nr 13)*

Змаганне за ўладу заўсёды патрабавала ахвяраў, у тым ліку і фінансавых.

* * *

***Ни для кого нет секрета, что я — член КПСС, член ЦК КПБ. Я не уходил из этой организации и не собираюсь уходить*** — заявіў новы міністр унутраных спраў Беларусі генерал Уладзімір Данько.

***(Свабода, н-р 11)***

Гэта вось рашучы падыход да справы прынцыповасці.

* * *

*W Tajlandii odnotowano już ponad 100 przypadków odcięcia przez żony penisów mężom. Jedna z nich nawet przywiązała odcięty organ do balona i wysłała w przestworza.*

*(Rzeczpospolita, nr 77)*

# З мінулага тыдня

**Па запрашэнню сеймавай Камісіі па міжнародных справах** у Варшаве прабывала група народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Дэлегацыю ўзначальваў старшыня парламенцкай Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях **Іван Цярэшка**. Мэта чатырохдзённага візіту — знаёмства з работай Сейма і Камісіі па міжнародных справах ды абмен вопытам.

**Міжведамасная камісія па справах палоніі і палякаў за мяжой** абмеркавала праграму дзеянняў польскага ўрада на карысць статысячнай польскай меншасці ў Казахстане. У Алма-Аце нядаўна адбыўся кангрэс польскай дыяспары, які аб'яднаў тамашнія польскія арганізацыі. „Самая неадкладная задача ў адносінах да казахскай палоніі — гэта дапамога ў культываванні нацыянальных традыцый і польскай мовы, а таксама стварэнне моладзі магчымасці вучыцца ў Польшчы”, — сказаў віцэ-прэм'ер **Аляксандр Лучак**.

**Узніклі разыходжанні** наконт таго, як мае праходзіць аўтастрада **Вія Балтыка**. Балтыйскія краіны, якія плануюць гэтую трасу, хочуць, каб ішла яна з Таліна цераз Рыгу, Коўна, Сувалкі ў Варшаву. Расейцы прапануюць, каб вяла яна з Санкт-Пецярбурга цераз Рыгу, Калінінград, Эльбланг у Гданьск.

**Некалькі соцень маладых ізраільцян** — удзельнікаў г. зв. **маршу жывых** — прыбылі ў канцэнтрацыйны лагер Майданак, каб ушанаваць памяць загінуўшых. У Майданку страцілі жыццё 300 тысяч чалавек, галоўным чынам яўрэяў. Удзельнікі маршу, які праводзіўся пад лозунгам барацьбы з расізмам і антысемітызмам, наведалі і Асвенцім, дзе адбыліся галоўныя ўрачыстасці.

**„Банкаўская газета”** апублікавала пералік пяцідзесяці гмін, якія найлепш справіліся з выдаткамі на камунальныя і жыллёвыя інвестыцыі ў 1992 годзе. **Беласток** апынуўся на пятым месцы ў групе гарадоў, якія налічваюць звыш 200 тысяч жыхароў.

У Беластоку стварыўся **Саюз аховы купцоў і работадаўцаў**, які мае стаць зародкам агульнакраёвай арганізацыі такога тыпу. Саюз заснаваў таксама свой выбарчы камітэт, а задачай „купецкіх” радных будзе нагляд за правільным фармаваннем гандлёвай і фінансавай палітыкі Гарадской рады ў адносінах да купцоў і работадаўцаў.

**У Ваяводскай управе ў Беластоку** адбылася рабочая сустрэча ў справе вызначэння месца пад **новы аэрадром**. Удзельнікі нарады пагадзіліся з планам пабудовы лётнішча ў ваколіцах вёсак **Фальваркі-Малыя і Фальваркі-Вялікія**, што ў Заблудаўскай гміне. Для гэтай мэты адведзена 1500 га тэрыторыі. Пабудова пачнецца не раней 2004 года.

**Ломжа хоча супрацоўнічаць з Лідай.** Дэлегацыя Ломжынскага аддзела Таварыства прыяцеляў Гродна і Вільні, якая наведала Ліду, перадала старшыні лідскага гарвыканкама пісьмо ад віцэ-прэзідэнта Ломжы з запрашэннем да супрацоўніцтва. Кантакты ломжынскага аддзела ТПГіВ з польскімі арганізацыямі ў Лідзе пачаліся ўжо 1990 годзе.

**Улады Бельска-Падляшскага** намерваюцца ўзнавіць дзейнасць ільноапрацоўчага завода (г.зв. рашарні), які быў зачынены пяць гадоў таму назад. Адноўлены завод дасць работу многім беспрацоўным у гэтым горадзе. Цяпер вядзецца ўступная кантрактацыя льну, каб устанавіць маштаб зацікаўлення сялян вырошчваннем гэтай расліны.

**Уласнік прыватнай турыстычнай фірмы ў Сямяцічах** намерваецца наладзіць рэгулярныя рэйсы баржай па рацэ Буг. Падчас трохдзённага рэйсу турысты пераплывуць трасу з Немірова цераз Мельнік і Вульку ў Драгічын і пазнаёмяцца з помнікамі мінуўшчыны. Баржа змесціць на палубе 12 пасажыраў, а кошт такой экскурсіі — 38 долараў ад чалавека.

**У вёсцы Харашчэва** Мілейчыцкай гміны трагічна загінуў падчас рамонту студні васьмідзесяцігадовы жыхар гэтай мясцовасці. Выняўшы некалькі верхніх бетонных труб, ён спусціўся ўніз і тады абвалілася зямля. Цела нябожчыка адкапалі пасля шасцігадзіннай выратавальнай акцыі.

**Нядаўна мытнікі ў Кузніцы** выявілі ў адной турысткі з Беларусі 1,5 тысячы долараў, якія тая намагалася нелегальна вывезці ў сваёй бялізне. Падчас рэквізіцыі турыстка стадоларавыя купюры ўвапхнула сабе ў рот, але праглынуць іх так і не здолела. Валюту мытнікі канфіскавалі.

# Праз тыдзень у „Ніве”

- **Дубы ўміраюць як людзі — піша П. Байко.**
- **Мінск апынуўся пад беларускай акупацыяй — заяўляе С. Яновіч.**
- **Штодзённае жыццё ў пушчанскай вёсцы.**
- **Палесся чар — спявалі перад вайной.**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Тэрмін прэзідэнцкіх выбараў

Вярхоўны Савет прыняў рашэнне аб правядзенні першых прэзідэнцкіх выбараў 23 чэрвеня 1994 года. Паколькі будзе гэта чацвер, старшыня ВС Мечыслаў Грыб прапанаваў, каб гэты дзень быў аб'яўлены выхадным.

### Абноўленыя міністры

На закрытым пасяджэнні Вярхоўнага Савета разглядалася пытанне аб прызначэнні Анатоля Бутэвіча міністрам навастворанага Міністэрства культуры і друку і Аляксандра Сталярова — старшынёю Камітэта па тэлебачанню і радыёвяшчанню, які пераўтвараецца з Нацыянальнай дзяржаўнай тэлекампаніі. Абедзве гэтыя кандыдатуры вылучаны прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам, але для іх зацвярджэння неабходная згода Прэзідыума ВС і адпаведных парламенцкіх камісій.

### Кандыдатура Пазьняка

Беларускі народны фронт прыняў рашэнне аб вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты лідэра БНФ Зянона Пазьняка. Як толькі будуць выкананы неабходныя працэдуры, звязаныя з рэгістрацыяй ініцыятыўнай групы, БНФ пачне збор подпісаў грамадзян рэспублікі. Парламенцкая апазіцыя праводзіць збор подпісаў і сярод народных дэпутатаў, хоць на станоўчы вынік спадзявацца не прыходзіцца.

### Бальцаровіч у Менску

„Шляхі выхаду з эканамічнага крызісу дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы” — пад такой назвай прайшоў у Менску навукова-практычны семінар. На яго быў запрошаны былы віцэ-прэм'ер Польшчы Лешак Бальцаровіч. У рабоце семінара прыняў удзел і старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч, які заявіў, што ў Беларусі, у адрозненне ад Расеі, няма палітычнай волі да рэфармавання эканомікі. Па словах галоўнага банкіра Беларусі, крытычны стан эканомікі — вынік таго, што функцыі палітычнай улады не аддзелены ад эканамічнай, а выхад са склаўшайся сітуацыі магчымы толькі шляхам „пeратрускі” кадраў, прыцягнення інтэлігенцыі да выпрацоўкі адпаведных праграм і адказу ад папулізму.

### Падрыхтоўка візіту

Кансультацыі экспертаў знешнепалітычных ведамстваў Польшчы і Беларусі адбыліся ў менскім Міністэрстве замежных спраў. У іх ходзе былі абмеркаваны пытанні стану і развіцця двухбаковага супрацоўніцтва ў гуманітарнай, эканамічнай і культурнай галінах. Эксперты займаліся таксама падрыхтоўкай пагадненняў аб супрацоўніцтве, якія будуць падпісаны падчас маючага адбыцца візіту ў Беларусь міністра замежных спраў Польшчы Анджэя Аляхоўскага.

### Граф у мітрапаліта

Па просьбе Хрысціянска-дэмакратычнага саюза Беларусі ў Менскім епархіяльным упраўленні Беларускай Праваслаўнай царквы адбылася сустрэча мітрапаліта Філарэта з графам Аляксандрам Прушынскім і кіраўніцтвам ХДСБ. У час гутаркі ўладыка пазнаёміў субяседнікаў з гісторыяй Беларускага экзархату. З задавальненнем былі адзначаны дружалюбныя адносіны Праваслаўнай царквы да іншых хрысціянскіх канфесій. У ходзе гутаркі выказвалася надзея, што „Гасподзь убачыць дастойнага кіраўніка для нашага народа, аб чым усе хрысціяне-вернікі пастаянна ўзносяць свае малітвы”. Граф Прушынскі выклаў сваю перадвыбарную праграму і падзяліўся думкай аб шляху выхаду Беларусі з палітычнага і эканамічнага крызісу.

### Новая партыя

Адбыўся ўстаноўчы з'езд Партыі працоўнага народа Беларусі. Яна не з'яўляецца пераемніцай ніводнай з раней існаваўшых партый, а яе светапогляд — умераны радыкалізм, філасофія разумнага сэнсу і пазітыўнага патрыятызму свядомых грамадзян. Новаўтвораная партыя на прэзідэнцкіх выбарах, магчыма, падтрымае Аляксандра Лукашэнку або Генадзя Карпенку.

### Камсамольцы задаволены

Закончылася справаздачна-выбарная кампанія беларускага камсамола. Першы сакратар ЦК ЛКСМБ Сяргей Вазняк пасля нядаўняй паездкі ў найбуйнейшую па колькасці віцебскую абласную арганізацыю, якая налічвае 105 членаў, выказаў свае задавальненне вынікамі прайшоўшай кампаніі. У Менску адбыўся таксама семінар-вучоба толькі што абраных лідэраў тэрытарыяльных структур ЛКСМБ. Дарэчы, членамі ЛКСМБ з'яўляецца цяпер каля 700 чалавек, а год назад у Беларусі было каля 200 камсамольцаў.

### Другое месца віцябчаніна

У Мурманску кульмінацыяй 60-га традыцыйнага „Свята поўначы” стала лыжная гонка на 50 км. У ёй прынялі ўдзел каля 2000 спартсменаў і аматараў з сямі дзяржаў — Беларусі, Нарвегіі, Літвы, Украіны, Расеі, Швецыі і Фінляндыі. Ва ўпартай барацьбе перамог Аляксей Пракурораў з Уладзіміра, які паказаў вынік 2 гадз. 29 хв. 15 сек. Усяго секунду уступіў пераможцу віцябчанін Аляксандр Саннікаў.

### Золатам не наясіся

Не ад добрага жыцця стаяць у чарзе ў магазіне „Белювелірганддю” ў Пінску жыхары гэтага палескага горада. Калі раней тут не было адбою ад пакупнікоў, цяпер у касе не хапае грошай для разліку з тымі, хто прыходзіць здаць ювелірныя вырабы. Толькі за апошні месяц ад насельніцтва прынята золата на 30 млн. рублёў.



 

# ПАНАРАМА МІХАЛОЎСКАЙ ГМІНЫ

(5)

## Адкуль узяліся назвы вёсак?

**Бахуры.** Раней вёска называлася Бахуроўшчынай (быў гэта невялікі фальварак). Гэтая назва — мянушка. Засядзелыя тамашнія жыхары празвалі *бахурамі* першых пасяленцаў на гэтай глухой правінцыі, закутку ў шырокім наваколлі Луплянкі, Лявонавіч і Шымкаў. Такім чынам выказалі яны сваю непрыхільнасць да новых пасяленцаў-прыблудаў. *Бахур* — слова зняважлівае, якое абазначае нязноснае дзіця, выкідыша, якога адмаўляюцца.

**Багнюкі** — назва ўзяла свой пачатак ад прозвішча першага пасяленца — Багнюка. Тут і зараз не адзін род Багнюкоў. Вёска з канца XVIII стагоддзя.

**Баршчэва** — назва таксама ад прозвішча пасяленца нейкага Баршча (рус. Борщ, Борщок).

**Біндзюга** — вёска заснаваная над ракой Нарвай. Назва яе ўзялася ад месца на беразе сплаўнай ракі, дзе прывозілі драўніну, а затым спіхалі яе на ваду ды вязалі ў плыты (ад нямецкага слова *binden* — вязаць або звязваць). Нараўская біндуга існавала ўжо ў 1774 годзе.

**Блізкоўшчына** — калёнія вёскі Кандраткі. Раней тут быў фальварак. Назву ўзяла ад прозвішча пасяленца *Блізкоўскага.*

**Боўтрыкі.** Землі, на якіх знаходзяцца Боўтрыкі, да падзелу Рэчыпаспалітай належалі да Ваўкавыскага павета Навагрудскага ваяводства ў Вялікім княстве Літоўскім. Да часоў далучэння гэтых зямель да Літвы доўга іх пакрывала пушча. Гэтая пушча падлягала спачатку (XV стагоддзе) наменснікам з Ваўпы, таму называлася Ваўпянскай пушчай, а потым аднаачасова з яе змяншэннем засяленнямі з усходняга кірунку загадвалі ёю намеснікі з Мсцібава (Мсцібава), і нарэшце, пасля вылучэння асобнай каралеўшчыны, якая называлася Ялоўскім стараствам — ялоўскія старасты.

Ялоўскае стараства ахоплівала групу вёсак, што разрастаюца ў XVII і XVIII ст.ст., і рэштку колішняй вялікай пушчы, названую Ялоўскай пушчай. Заходняя граніца Ялоўскай пушчы і аднаачасова Ялоўскага стараства была ў той час на рацэ Альшанцы. Таксама ад Люблінскай уніі яна была граніцай паміж Каронай і Вялікім княствам Літоўскім. Мяжа Ялоўскай пушчы пасоўвалася на захад разам з заснаваннем ялоўскімі старастамі новых вёсак.

Бортніцтва ў Ялоўскай пушчы існавала сама меней недзе з XVI стагоддзя, а з часам яноператварылася ў пчалярства (пасекі ставілі ў пушчы на прыродных або штучных палянах, паблізу лугоў). Перапіс Ялоўскага стараства з 1621 года ўспамінае пра „прэсны мёд з Ялоўскай пушчы, што дастаўляецца з пасекаў і з ведама пана падстарасты выбіраюцца". З цягам часу пасечнікі пасяляліся на тых пасеках, у якіх яны працавалі. Пры іх выраблялі невялікія палеткі, здавалі з іх даніну аўсом і хмелем, ставілі хаты.

Якраз у такой пасецы ў першай палове XVIII стагоддзя ў Ялоўскай пушчы, непадалёку вусця Луплянкі ў Нарву пасяліўся пасечнік Боўтрык (Баўтрук). У 1750 годзе ў „абрубе Баўтрукоў" сядзяць два пасечнікі: Базыль Баўтрук і Паўлюк Баўтрук. Гэта, пэўна, браты (мелі ўжо яны асобныя гаспадаркі), сыны, відаць, першага пасяленца. У другой палове XVIII ст. род паступова разрастаўся і ўжо ў 1784 г. у спіску вёсак Ялоўскай парафіі зафіксаваны Боўтрыкі.

У 1798 годзе ў Боўтрыках было дзесяць „дымаў". У 1921 г. вёска налічвала 34 дамы, 186 жыхароў, у тым 43 католікаў і 143 праваслаўных.

Назва вёскі Боўтрыкі паходзіць ад прозвішча роду Боўтрук (таксама Баўтрук — гэта дыялектная розніца, выкліканая оканнем або аканнем), а яно ад імя Боўтрук (раней — Баўтрук). Гэта адна з памяншальна-ласкальных форм імя Бартламей. Прозвішчы сялян вельмі позна замацаваліся, раней былі няўстойлівымі патранімікамі (прозвішчамі ад імя бацькі), і так, напрыклад, Боўтрук (імя), ад якога павялося прозвішча яго нашчадкаў мог жыць ажно ў XVIII стагоддзі. Магчыма, іменна ён быў бацькам Базыля і Паўлюка Баўтрукоў, пра якіх згадваюць пісьмовыя крыніцы ў 1750 годзе і ад якіх у сваю чаргу пайшлі Боўтрыкі.

**Бандары.** Вёсачка вядомая з 1784 года. Найперш па дазволу або загаду Ялоўскага старасты ці яго ўраднікаў тут настала пасяліліся бондары (рамеснікі, якія рабілі посуд з клёпак, з драўніны).

**Буды.** Былі вядомыя ў канцы васемнаццатага стагоддзя. Вёска назву ўзяла ад будаў, буданоў — першых невялікіх ды часовых будынін, пастаўленых у барах і лясах асочнікамі, стральцамі, стражнікамі, якія пільнавалі Ялоўскую пушчу, якой па даручэнню старасты распараджаўся ляснічы, які меў у дапамогу асочнікаў (гэта была спецыяльная служба, званая „асокай", яе задачай было сцерагчы пушчу на яе ўзмежках і ў сярэдзіне падчас старажавання па чарзе ў асоцкіх буданах; па яго дазволу гаспадарылі ў ёй стральцы (дастаўлялі яны патрэбныя прадукты, скуры, памагалі, калі кароль прыязджаў на паляванне). З часам у буданах пасяліліся дрывасекі і смалакуры. Месца пасялення захавала першапачатковую назву *Буды*, хаця тагачасныя буды замянілі хаты.

**Цісоўка.** Раней так называлі ўрочышча вёскі Шымкі. Вёска ўзяла назву ад ракі Цісоўкі, правага прытока Нарвы. Рачулка прыняла назву пэўна ад акружаючых яе дрэў і кустарнікаў названых цісамі. Цісы тут не раслі. Мясцовыя жыхары *белым цісам* называлі піхту.

**Цівanюкі.** Захаваўся рукапіс, а ў ім: „Обруб" Цівaнюкоў, на якім пражываюць Грыгор Цівaнюк і Іван Цівaнюк". Прозвішча ўзнікла ад старабеларускага *цівун* — ураднік, памочнік намесніка, арандатара княжацкага маёнтка. Яшчэ і зараз жывуць тут Цівaнюкі.

**Дубляны.** Назва этнаграфічная, абазначае, што першапачаткова людзі жылі тут сярод дубоў. Фанетычная форма назвы тыпова беларуская. Вёсачка існавала ўжо ў пачатку XVII стагоддзя. У інвентарным вопісе Ялоўскага стараства можна сустрэць назву адной з вуліц у Ялоўцы — Дублянская. Вопіс зрабілі ў 1623 годзе.

**Гарбары** — назва беларуская; гарбары або дубільшчыкі займаліся апрацоўкай скур у сырым выглядзе.

**Ганчары** — назва беларуская; ганчары выраблялі з гліны гаршкі, збаны, вазы, верцехі.

**Грудкі** — калёнія вёскі Старая Луплянка; назва беларуская; грудкі або ўзгоркі; сухое месца, якое ўзвышалася сярод лугоў і балот.

**Геранімова** — вёска названа ў гонар князя Гераніма Радзівіла, які ў другой палове XVIII стагоддзя быў уладальнікам гэтага фальварка.

*(працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ПРЫВІТАНЬНІ

Сакавік, 1994

**ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!**

З нагоды Сьвята 25 Сакавіка перасылаем Вам нашыя ўрачыстыя віншаваньні з пажаданьнямі хуткага ўрэчаісьненьня тых шляхэтных мэтаў Сакавіковых, якія ў сваім сэрцы і думцы тоіць кажны беларускі патрыёт.

З усіх старон даходзіць да нас водгульле і кіруе нашую ўвагу на тое, што ёсьць гэтакія рэчы як Права жыць на гэтай зямлі;

Права свабоднага вызнаваньня свае веры і выражаньня публічна свайго сьветапогляду як і палітычнага пераканаНьня;

што гэтыя ідэалы — гэта ня толькі словы ў лексыконе, але што гэта рэчаіснасьць, да якое трэба адносіцца гэтак, як адносіцца чалавек да жыцьцядайных праменьняў Сонца, да падтрымліваючае жыцьцё вады, ці да таго паветра, безь якога чалавек ня можа жыць;

што трэба верыць у апавешчаныя ідэалы, трэба голасна дамагацца іх і ўсюды за іх змагацца;

што час на зьнеахвочаньне мінуў;

што пэсымізм не павінен мець месца сярод нас;

што найбольшымі ворагамі чалавека зьяўляюцца скептыцызм і цынізм;

што апсаласьць мае быць вытурана з нашага асяродзьдзя;

што трэба верыць, што ўсе непаводжаньні ў жыцьці чалавека ці народу — гэта мінаючае зьявішча;

што трэба падтрымліваць пераканаНьне, што існуе на сьвеце гэтакая рэч, як дабро, любоў і лепшае заўтра;

што энтузіязм і аптымізм зьяўляюцца тымі сіламі, якія вялі людзей учора і будуць весьці іх да сьвятых мэтаў заўтра.

Хто вытрымае да канца — збаўленым будзе!

**ЯН ПЯТРОЎСКІ, ЗША**

* * *

**Шаноўнае спадарства!**

Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў у Квэбэку й Парафіяльная Рада Парафіі Спаса ў Монтрэалі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы віншуюць вас з нагоды 76-ых Угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі й зычаць вашай грамадзе посьпехаў у плённай працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны — Беларусі, а кожнаму сябру вашай грамады зычым моцнага здароўя й шчасьця.

Жыве Беларусь!

Старшыня Згуртаваньня беларусаў у Квэбэку
**Анатоль Хрэноўскі**

Старшыня Парафіяльнай Рады
**Раман Кардонскі**

### „Тройка" дастала на гімнастычную залу 700 мільёнаў

# З БЕЛЬСКА

30 сакавіка праходзіла 39-ая сесія Гарадской рады. Галоўным пунктам парадку дня было зацвярджэнне бюджэту горада на бягучы год. Радным давялося падзяліць 57 мільярдаў 800 мільёнаў злотых. Падзел гэты выглядаў — паводле слоў старшыні Рады Багдана Заваліха, — як „канцэрт па заяўках".

Падчас дэбатаў усё вярталася справа няшчаснай кацельні, будова якой спынілася, а дакументацыя трапіла ў пракуратуру (шмат пра гэта пісала мясцовая прэса). Аднак пракурор, не знайшоўшы злачынства, адаслаў усе матэрыялы назад у Раду. Гэта не задаволіла нашага старога знаёмага — аўтара ўсёды і заўсёды наводзіць парадкі — Яна Радкевіча. Не задаволіў яго таксама рапарт Рэвізійнай камісіі ў гэтай справе і склаў ён прапанову стварыць яшчэ адну, на гэты раз „сапраўды ўжо незалежную і аб'ектыўную" камісію для правядзення кантролю ў Гарадскім прадпрыемстве ацяплення і ў яго Нагляднай радзе. Хаця за прапановай галасаваў толькі адзін радны — сам аўтар — то ў сваім доўгім выступленні паспеў ён абразіць пару асоб, з-за чаго і пайшло паўгадзіны на гарачую, але зусім пустую сварку.

Не былі ў гэты дзень, здаецца, у добрай кандыцыі радныя ад лявіцы. Сцяпан Мікалаюк і Януш Панасюк не маглі да канца зразумець свайго калегі „па клубе" Мікалая Самоціка, які вельмі лагічна і канкрэтна тлумачыў, як пазбыцца несалідных будаўнікоў кацельні, каб на гэтым не страціць. Гэтае варшаўскае прадпрыемства намагаецца сарваць дамову „па віне горада" і яшчэ ўзяць за гэта кампенсацыю, якая пойдзе ў мільярды злотых. Віна горада бышцам у тым, што не мае ён сродкаў на працяг інвестыцыі. Таму Рада павінна трымаць фармальна на працяг пабудовы кацельні замарожаныя грошы — 7,5 мільярда — а калі праз месяц-два справа выясніцца, суму гэтую будзе можна расходаваць з карысцю. З увагі на гэтае незразуменне прайшла прапанова сфармуляваная крыху ў іншы спосаб старшынёй Рады, але і ў сваёй канчатковай форме дае яна дырэктару Самоціку (ён жа намеснік старшыні па эканамічных справах Прадпрыемства ацяплення) вольную руку ў перамовах з варшавякамі (чытай: пазбыцца іх так, каб гэта выйшла па іхняй віне).

З беларускіх акцэнтаў на сесіі самы важны той, што Пачатковая школа н-р 3 атрымала 700 мільёнаў злотых на працяг пабудовы гімнастычнае залы (хаця некаторыя радныя прапанавалі адкроіць з гэтай сумы 200 мільёнаў на рамонт „двойкі"). Дырэктар Васіль Ляшчынскі лічыць, што — пры спадзяванай дапамозе Міністэрства нацыянальнай адукацыі — гэта слаўтая ўжо пабудова будзе памалу наблікацца да канца (па сённяшніх цэнах трэба яшчэ два з палавою мільярда). Не паверыў у гэта — ну, хто ж іншы? — Ян Радкевіч: „Дакуль Ляшчынскі будзе выцягваць грошы ад нас на сваю залу?!" Пагражаў прытым новымі спецыяльнымі камісіямі для праверкі сітуацыі бельскіх школ. Але, калі пачалі яму школы блытацца — найчасцей „тройка" з Ліцэем імя Тарашкевіча, — усе ўжо мелі гэтага даволі.

Ліцэй імя Б. Тарашкевіча атрымаў 70 мільёнаў злотых на рамонт вокнаў да з'езду выпускнікоў. А хор „Васілёчкі" 10 мільёнаў на свае 30-годдзе.

І яшчэ дзве справы можна аднесці, хаця толькі пасрэдна, да беларускіх. Першая, гэта зачыненая публічная прыбіральня ў гарадскім парку перад самай „тройкай". Дырэктар Ляшчынскі абяцаў, што, калі Управа горада яе не адчыніць, то падрыхтуе спецыяльную фатаграфічную дакументацыю. Бурмістр і яго працаўнікі змогуць тады пацешыцца вобразамі, з якімі на штодзень сустракаюцца вучні.

Другая справа — радныя забралі 1,2 мільярда злотых, якія прызначаліся на пабудову Паўночнай вуліцы. І нашто было яе жыхарам так востра пратэставаць супраць Скарыны?

**М. В.**

# ЯК Я З'ЕЎ МАРОЗІВА ВІТАЛІЮ ЧУРКІНУ

Сёння, калі цалкам не пакінула яшчэ мяне мая хвароба, вырашыў я, каб крыху развесяліць сябе і чытачоў, расказаць гісторыю, якая амаль што мяжуе з анекдотам, а якая здарылася ў сапраўднасці недзе ў студзені 1987 г. у Вільні — тадышняй сталіцы яшчэ Літоўскай ССР, падчас маёй навуковай стажыроўкі ў Інстытуце літоўскай мовы і літаратуры Акадэміі навук ЛССР.

У Літву, упершыню ў сваім жыцці, прыехаў я ў суботу 17 студзеня 1987 г. ужо пад вечар. На чыгуначным вакзале сустракаў мяне, відаць, выразна незадаволены маім прыездам, доктар Кастусь Давейка — навуковы супрацоўнік успомненага Інстытута. Яго першыя „прывітальныя" словы, калі я сышоў з цягніка на віленскі перон і пацісну ў яму руку, былі такія:

— А чаму не ў Мінск?

— У Мінску я ўжо быў, — адказаў я яму і стала мне вельмі прыкра, таму што ні раней, ні пазней, нідзе мяне так не сустракалі.

Давейка завёў мяне ў гасцініцу „Гінтарас", якая знаходзілася недалёка ад вакзала на вул. Соду 14, уручыў мне рабочую праграму маёй амаль трохтыднёвай пабыўкі, выплаціў камандзіровачныя грошы і мы, коратка пагаварыўшы, хутка развіталіся.

Назаўтра завітаў да мяне вельмі сімпатычны малады чалавек, таксама навуковы супрацоўнік гэтага ж Інстытута, але ўжо без ніякіх комплексаў, Йонас Шлекіс, каб паказаць мне цудоўную Вільню. І сапраўды. Тое, што ён мне паказаў, перасягнула тады ўсе мае чаканні, а азнаёміўшыся раней крыху з Захадам, я адчуў, што Вільня, як старажытны горад, ні ў чым не ўступае падобным заходнім гарадам са сваёй шматвяковай культурнай традыцыяй, што гэта сапраўдная сталіца былога Вялікага княства Літоўскага. Усёй сваёй істотай я адчуў тады яе культурную веліч! А яшчэ больш стала яна мне блізкай, калі і там дашукаўся я сваіх падляшскіх каранёў — цалкам выпадкова ўбачыў мемарыяльную дошку ўмураваную ў сцены Віленскага універсітэта ў гонар двух выдатных нашых вучоных з Падляшша праф. Ігната Даніловіча і праф. Язэпа Ярашэвіча.

Пашанцавала мне тады працаваць разам з акадэмікам Адамам Мальдзісам, які ў той жа час таксама прыехаў у Вільню. Жылі мы ў адной гасцініцы, разам уставалі амаль у той жа час і з самой раніцы падаваліся ў віленскія бібліятэкі. Адам Мальдзіс паказаў мне беларускую Вільню і я быў тады прыемна здзіўлены і захоплены яе веліччу! Каб не Адам Мальдзіс, я напэўна ніколі б не сустрэўся з легендарнай ужо Зоськай Верас, якая ўжо не жыве (яе дзед па маці паходзіў з Альхоўнікаў, што на Сакольшчыне), яе дачкой, а можа нават і з сынам Антона Луцкевіча Лявонам.

Ужо дакладна не памятаю, калі гэта было. Напэўна быў гэта канец тыдня. Можа субота, а можа нядзеля 25 студзеня 1987 г. У праграме маёй пабыўкі быў вольны час і я зайшоў у гасцінічны рэстаран, каб з'есці абед. Было ўжо пад вечар. Можа гадзіна нейкая семнаццатая. Заняў я месца непадалёку ад уваходу, насупраць акна.

Літоўскі афіцыянт неўзабаве падышоў да мяне і запытаў на літоўскай мове, што я жадаю сабе заказаць. У сувязі з тым, што я не гавару па-літоўску, адказаў я яму на рускай мове і заказаў сабе вельмі смачны абед (на другую страву, наколькі добра памятаю, шніцэль).

У хуткім часе насупраць мяне з'явіўся адносна малады чалавек з сябрам, які, усміхаючыся, з ім пра нешта талкаваў. Здаецца, іграў нейкі аркестр, ва ўсякім выпадку была нейкая арыгінальная, у тым ліку і літоўская музыка. Было прыемна.

Госці нешта сабе заказалі, здаецца, таксама і нейкі трунак. Мы спакойна сабе спажывалі, а госці ўсё пра нешта талкавалі, і, здаецца, крыху выпівалі.

Малады чалавек заказаў сабе таксама марозіва, аб чым я не ведаў. Літоўскі афіцыянт прынёс яго і паставіў быццам бы па-сярэдзіне, але бліжэй мяне.

Я з'еў суп, вельмі смачную другую страву, выпіў кампот і... здзіўлены ўбачыў, што насупраць мяне стаіць яшчэ нейкае марозіва, якое я не заказваў. Нейкі час я не ведаў, што рабіць. Хістаўся... Разважыўшы, падумаў сабе, аднак, што я знаходжуся ў Літве, дзе ў многім існуюць свае законы, многае тут па-іншаму і, відаць, гэтае марозіва гэта не інакш, як нейкі дадатак да майго абеду, як выглядала, бясплатны (я, наколькі памятаю, размічыўся ўжо тады з афіцыянтам).

Доўга не задумоўваючыся, я ўзяў яго і з'еў. Госці насупраць мяне надалей сядзелі і весела ўсё пра штосьці талкавалі, але я не звяртаў на іх большай увагі.

І толькі, калі я закончыў есці марозіва, пачуў прыемны голас з усмешкаю на твары маладога чалавека:

— Молодой человек, — звярнуўся ён да мяне, — скажите, кто это моё мороженое съел?..

— Это было вашее мороженое? — здзівіўся я. — Извините, я не знал.

— А что, вы заказывали мороженое? — спытаў ён.

— Нет. Не заказывал. ... Если это было вашее мороженое, тогда я откуплю.

— Да ладно, не надо, — адказаў ён, усміхаючыся.

— Вы сами откуда? — пацікавіўся ён затым.

— Я из Польши.

— Чем занимаетесь?

— Наукой, — коратка адказаў я.

– А вы откуда? — пацікавіўся і я ў сваю чаргу ўсё яшчэ пад уражаннем незвычайнага здарэння.

— Я из Москвы, — адказаў ён.

— А вы чем занимаетесь? — запытаў я.

— Политикой, — адказаў малады чалавек.

— Я тоже интересуюсь политикой, — адказаў тады яму я і ў адказ пачуў:

— Политикой не надо интересоваться. Её надо или делать или вообще ей не заниматься, — увесь час у добрым настроі з той жа ўсмешкай адказаў ён мне.

Я, мабыць, яшчэ раз запрапанаваў яму адкупіць марозіва, але ён яшчэ раз адказаў мне:

— Да ладно. Не надо, прощаю вам, — з той жа ўсмешкай.

Падумаў я сабе тады, што можна было б з ім пазнаёміцца бліжэй, але палітыкі, напэўна, не любяць фамільярнічаць з першым лепшым. Прытым, магчыма, сядзіць насупраць мяне вядомы ўжо палітык, якога я не ведаю, ажно сорам! І ён, напэўна, быў бы здзіўлены, што я яго не ведаю. Я ж раскрыўся, што займаюся навукай, прытым яшчэ цікаўлюся палітыкай і такому чалавеку, як мне, не было б прэстыжна не ведаць вядомага маладога палітыка, проста, мне было б няёмка, калі б прагучала вядомае прозвішча тадышняга вядомага расійскага палітычнага туза.

Я вырашыў, не паказваючы віду, не чапаць больш майго субяседніка. За ўсё падзякаваў і, відаць, пайшоў крыху патанцаваць. Пазнаёміўся нават з вельмі сімпатычнай дзяўчынай, Наташай — студэнткай апошняга курса эканоміі, але быў я ўжо тады жанаты (цяпер амаль што вольны) і яна ніяк не магла раскусіць у чым справа.

І вось, некалькі дзён таму назад, дакладна 12 сакавіка г.г., бяру я ў рукі адну з цэнтральных польскіх газет і бачу знаёмае мне аблічча майго бышага віленскага субяседніка, перад якім я і надалей у даўгах. Гэта — ніхто іншы, як сам Віталій Чуркін — сённяшні віцэ-міністр замежных спраў Расіі — выдатны расійскі палітык. Чытаю з недаверам ягоную біяграфію і бачу, што мне няма чаго саромецца.

Чуркін сапраўды ў 1987 г. быў ужо высока, таму што працаваў ён тады ў Замежным аддзеле ЦК КПСС (у 1987—1989 г.г.), а раней пяць гадоў вёў савецка-амерыканскія перагаворы наконт раззбраення ў Жэневе, але я меў поўнае права тады яшчэ яго не ведаць.

Сёння ж з прыемнасцю — як славіст — чытаю, што гэты асабіста мне знаёмы выдатны палітык дабіўся найбольшых дыпламатычных поспехаў Расіі на працягу апошніх гадоў, рэгулюючы, між іншым, канфлікт у Босніі.

Такім чынам, сёння я ўжо ведаю, што ў адзін студзеньскі дзень 1987 г. у гасцініцы „Гінтарас" у Вільні выпадкова (а можа не?), дзякуючы сюрпрызу літоўскага афіцыянта, з'еў я марозіва самому Віталію Чуркіну, сённяшняму віцэ-міністру замежных спраў Расіі — выдатнаму расійскаму палітыку і маю над ім такую перавагу, што ён не ведае, што за навуковы супрацоўнік з Польшчы з'еў яму гэтае марозіва, хіба, што прачытае „Ніву". А сваім парадкам, добра было б цяпер ізноў сустрэцца з Віталіем Чуркіным і вярнуць яму гэты доўг. Дык да сустрэчы, сябра!

**ЮРЫ ТРАЧУК**

# ПЕРАД ФЕСТЫВАЛЕМ

Поўным ходам ідзе падрыхтоўка да XIII Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі — Гайнаўка'94. У гэтым годзе фестываль адбудзецца ў днях 22—29 мая і прыме ў ім удзел звыш трыццаці хораў.

Арганізатары спадзяюцца, што перад гайнаўскай публікай выступяць:

— 4 вясковыя прыхадскія хоры,

— 11 гарадскіх прыхадскіх хораў (ЗША, Эстонія, Украіна, Літва, Польшча),

— 6 іншых прыхадскіх хораў (Польшча, Славакія, Балгарыя, Расея, Югаславія),

— 8 свецкіх аматарскіх хораў (Польшча, Расея, Беларусь, Балгарыя),

— 7 прафесійных хораў (Грэцыя, Польшча, Украіна, Беларусь, Арменія, Латвія, Расея).

Цяпер арганізатары складаюць дэталёвую праграму Фестывалю.

**Дырэктар Фестывалю**
**МІКАЛАЙ БУШКО**

# ЯШЧЭ АДЗІН МІФ

Нядаўна спадар Зэнон Рудны з Варшавы звярнуў нашу ўвагу на артыкул у „Przeglądzie Tygodniowym" ад 5 снежня 1993 г. пад загалоўкам „Czerwony kondotier Himmlera". Аўтар гэтай публікацыі Яцэк Вілямоўскі піша там пра Браніслава Камінскага, аднаго з найкашмарнейшых бандытаў, які служыў у СС і большасць акупацыі дзейнічаў у Беларусі.

Здавалася, што ніхто не сумняваецца ў тым, кім быў Камінскі. Бацька яго паляк, маці немка, а ён невядома чаму прыдумаў быць расейцам і імкнуўся пасля перамогі Гітлера на ўсходнім фронце стаць фюрэрам Расеі. Пры падтрымцы Гімлера авансаваў у канцы на генерала брыгады СС. Яго салдаты з Русской Освободительной Народной Армии гэта нішто іншае, як крымінальная хеўра, складзеная з тыпаў розных нацыянальнасцей — расейцаў, літоўцаў, палякаў, украінцаў, беларусаў ды іншых. Брыгада Камінскага доўгі час была размешчана ў Беларусі і выкарыстоўвалася немцамі падчас пацыфікацый беларускіх вёсак. Пра зверствы салдат Камінскага можна было б пісаць вельмі доўга, бо вельмі доўгі быў лік ахвяр гэтых злачынцаў. Паляркі дзейнасць гэтай брыгады спазналі толькі ў жніўні 1944 г., калі змагалася яна з мірным насельніцтвам паўстанчай Варшавы. Камінскаму ў канцы нават нямецкія эсэсаўцы адмаўляліся падаваць руку. Зверствы ягоныя былі ўжо надта агіднымі. Яго Русская Освободительная Народная Армия была нічым іншым як збродам безыдэйных азвярэлых і здэмаралізаваных індывідуумаў, якіх мэтай самой па сабе было расстрэльваць, рэзаць, гвалтаваць, грабіць, паліць. Вайна заўсёды спрыяла такім дэгенератам. Маглі яны рабіць зусім бяскарна тое, за што ў нармальны час паслалі б іх у турму або на шыбеніцу.

А што піша пра Камінскага Яцэк Вілямоўскі? У асобе ката Беларусі заўважыў ён нейкага беларускага дзеяча, а цяпер дашукаўся асоб „gloryfikujących przeszłość białoruskiego Führera" ды паставіў яго побач Язэпа Кушаля і Івана Ермачэнкі. Кушаль быў камендантам Беларускай самаахоўы, а Ермачэнка — Беларускай самапомачы.

Гэта прафанацыя гісторыі і фактаў. Безумоўна, Кушаль і Ермачэнка былі беларускімі нацыяналістамі і як усе нацыяналісты рабілі ўсё, каб іх народ як найменш пацярпеў у той цяжкі час. Самаахова мела ізаляваць беларускае грамадства ад савецкіх партызанаў і абараняць насельніцтва перад усялякімі крымінальнымі групоўкамі, ад якіх аж густа было ў Беларусі. Падазрэнне ў супрацоўніцтве грамадства з партызанамі выклікала найчасцей крывавыя рэпрэсіі з боку акупантаў. Немцы пасылалі тады на расправу батальёны карнікаў, такіх як атрады Камінскага, ці літоўскіх паліцыянтаў, мадзярскіх жандараў, сваіх эсэсаўцаў ды іншых забойцаў.

Нідзе не было так моцнай савецкай партызанкі, як у Беларусі, нідзе таксама немцы не сканцэнтравалі столькі ўзброеных і падпарадкаваных сабе карных вайсковых часцей усялякіх нацыянальнасцей. І нідзе паралельна да колькасці жыхароў не было столькі ахвяр сярод мірнага насельніцтва, нідзе не было столькі спаленых вёсак разам з іх жыхарамі. Сотні тысяч беларусаў, выпадковых людзей, сталіся ахвярамі вайны, якая вялася на іх тэрыторыі. Ніхто іх не шкадаваў. Беларусь пераўтвары-лася ў край, на тэрыторыі якога такія псіхапаты і садысты, як Камінскі, доўгі час здзекаваліся над пазбаўленым усялякай аховы насельніцтвам.

Невядома, адкуль Вілямоўскі ўзяў інфармацыю, што Камінскі быў ініцыятарам склікання кангрэсу беларускіх нацыяналістаў. Кангрэс такі сапраўды доўга рыхтаваўся і адбыўся 27 чэрвеня 1944 г. у Менску, але ніхто з яго ўдзельнікаў не ўспамінае пра нейкага Камінскага, бо цяжка сабе ўявіць, каб хтосьці з беларусаў імкнуўся да супрацоўніцтва з чужым дэгенератам, які паліў беларускія вёскі разам з іх жыхарамі.

Не ведаю, чаму Вілямоўскі спалучае обер-фюрэра СС неакрэсленай нацыянальнасці з беларускім палітычным рухам падчас II сусветнай вайны. Немцы, як піша сам аўтар, называлі яго „польскім нацыяналістам", хаця пэўна ніводзін паляк не згодзіцца, каб такая пачвара мела штосьці супольнае з яго народам.

Дык чаму ж Вілямоўскі падкідае гэтую асобу беларусам? Дурната гэта ці правакацыя?

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# NAM SIĘ TO NALEŻY!

21 сакавіка г.г. па беларускім тэлебачанню выступіў старшыня Саюза палякаў Беларусі Тадэуш Гавін. У праграме на польскай мове, якая пастаянна ад нейкага часу з'яўляецца на гродзенскім тэлебачанні, палякі паказваюць свае праблемы, гісторыю — так, як яны яе бачаць, культуру, спяваюць патрыятычныя песні.

Старшыня Т. Гавін гаварыў пра фінансавыя праблемы польскага асяроддзя ў Беларусі. Варта пазнаёміцца з імі, каб параўнаць іх з беларускімі праблемамі ў Польшчы. „Wszystko co dzieje się z polską kulturą to skandal, — гаварыў Гавін. — Od dawna mamy piękny plac w śródmieściu Grodna, przekazany nam przez władze na budowę Centrum Kultury Polskiej. Rząd białoruski mówi, że nie ma pieniędzy na realizację tej inwestycji. Ale my przecież tutaj chodzimy do pracy i płacimy podatki i nam się to po prostu należy. Tłumaczą, że już budują szkołę polską w Grodnie, ale takie szkoły powinny być w każdej dzielnicy i służyć jednocześnie jako ośrodki kultury polskiej. Dziś wiemy, że nikt nam nic nie da, gdy nie będziemy się domagać, dlatego codziennie trzeba stawiać żądania. W Polsce dla Białorusinów rząd polski buduje Centrum Kultury Białoruskiej w Hajnówce, takie samo centrum powinno być wybudowane w Grodnie...” і г.д.

Слухаючы пана Гавіна, неяк уяўляў я сабе такую сітуацыю, калі па польскім тэлебачанню выступае хтосьці з нашых дзеячоў і гаворыць тое самае, кіруючы свае словы ў адрас уладаў Рэчыпаспалітай. Няцяжка здагадацца, якія каментары паказаліся б у прэсе, па радыё і тэлебачанню. „Гэта правакацыя”, — з агнём у вачах паўтараў бы беластоцкі інтэлектуальны плебс. Доўга не змаўкалі б галасы абурэння з боку „вядомых палітыкаў”. Калі падчас сустрэчы беларусаў з сеймавай Камісіяй па справах нацыянальных меншасцей Алег Латышонак, былы старшыня БДА, успомніў, што мы таксама плацім падаткі і з іх павінны адводзіцца сродкі на фінансаванне нашай культуры, віцэміністр культуры адказаў яму, што гэта праява сепаратызму. „Ад дзялення грошай пачынаецца дзяленне ваяводства, а пасля дзяржавы”, — паясняў высокі ураднік. „Павеяла нацыяналізмам,— дакінуў ад сябе пасол, „наш хлопец”, Сяргей Плева.

У Гародні палякі маюць свой дом, які ўжо выконвае функцыю нейкага цэнтра. Такія цэнтры будуюцца, здаецца, у Баранавічах, Лідзе і Наваградку. У звыш 300 школах навучанне вядзецца на польскай мове.

Нічога ў тым дзіўнага, бо так менавіта павінна быць у цывілізаваным свеце. Дзяржава аднолькава мусіць трактаваць усіх сваіх грамадзян. Таксама мае рацыю пан Гавін, калі гаворыць:„Nam się to należy”.

Але чаму мы нават не можам гаварыць пра тое, што нам належыцца. Чаму адразу на кожнае нашае, згодна з дзяржаўнымі законамі, патрабаванне, крычаць: „Нацыяналізм, сепаратызм!” Чаму музей, які будуецца ў Гайнаўцы ў асноўным грамадскімі сіламі, называюць ужо Цэнтрам беларускай культуры? Там жа няма ні цэнтра, ні культуры.

Чаму польскія школы, у якіх у раскладах ёсць прадмет беларускай мовы — толькі для ахвотных — называюць беларускімі школамі? Гэта ж гратэск! Ужо чатыры гады з боку беларускай інтэлігенцыі плывуць пастулаты стварыць у Беластоку навуковую ўстанову дзеля даследавання культуры, гісторыі, мовы, літаратуры беларусаў, якія жывуць на Беласточчыне. Улады мясцовага універсітэта не хочуць нават пра гэта слухаць. Мясцовая адміністрацыя ахвотна ліквідавала б усё, што яшчэ тут існуе — часопісы, фальклорную дзейнасць, а дамагацца ад іх чагосьці новага, гэта так, як бы паспрабаваць на мятле адарвацца ад зямлі. Ніводзін міністр чатырох чарговых урадаў нават не адказаў на пастулаты беларускай інтэлігенцыі.

У Беластоку ўжо нават нікога не здзіўляе, калі пасол кіруючай партыі заяўляе, што віцэ-ваяводам не можа быць прадстаўнік нацыянальнай меншасці.

Выглядае на тое, што „nam się nic nie należy”.

**МІКАЛАЙ БУСЛОВІЧ**

# НАШ КАСЦЮШКА СЛАЎНЫ БЫЎ

☛ *Працяг са стар. 1*

сілы. На пакаленне раней шляхта завязала барскую канфедэрацыю, якой першым лозунгам было адмаўленне роўных правоў праваслаўным і пратэстантам. Паводзіны Касцюшкі і кіраўніцтва паўстання адлюстроўваюць, безумоўна, настроі іншай эпохі, у якой многа гаварылася аб роўнасці і братэрстве, але шмат што ідзе тут ад самога Касцюшкі. У гэты самы час, калі Найвышэйшая Нацыянальная Рада загадвае царкоўнаму каталіцкаму кіраўніцтву і свецкім выканаўчым уладам, каб ніхто ні пісьмова, ні вусна не праследаваўся з прычыны свайго праваслаўнага веравызнання пад пагрозай пакарання, у паўстанцкіх абозах на тэрыторыі Кароны капеланы па-старому вучылі народ, што ён змагаецца не толькі за бацькаўшчыну і волю, але і за веру, бо ворагі — схізматыкі. Заўважым таксама, што Касцюшка называе праваслаўе „святой верай”, а яго нібыта перайманнік, Каліноўскі — „сызмай”. Адразу відаць, што пра ніякае перайманнiцтва не можа быць размовы.

Столькі пра веравызнанне Касцюшкі, цяпер пра нацыянальнасць. Красамоўна сведчыць пра яе ліст, напісаны Касцюшкам у 1790 г. да ген. Несялоўскага з просьбай перавесці яго з арміі Кароны Польскай у войска Вялікага княства Літоўскага:

„Хіба Вы адмаўляецеся ад мяне і лічыце няздольным служыць Вам? Кім жа я з'яўляюся? Няўжо я не літвін, Ваш зямляк, Вамі абраны? Каму павінен дзякаваць калі не Вам? Каго павінен абараняць, калі не Вас і сябе самога. Калі гэта Вас не кране для ўнясення прапановы пра мяне на сейме, каб вярнуўся, то я сам буду вымушаны, бачыць Бог, штонебудзь кепскае сабе ўчыніць!

Таму, што злосць мяне бярэ: каб з Літвы ў Кароне служыў, калі Вы не маеце трох генералаў. Калі Вас вешаць на вяроўцы будуць гвалтаўнікі, тады толькі адумаецеся і пра сябе пачнеце клапаціцца”.

Як відаць, служба ў польскай арміі прывяла Касцюшку да такога адчаю, што з аднаго боку пагражае самагубствам, а з другога — палохае вяроўкай начальства літоўскай арміі, якое не хоча яго прыняць.

Рэч Паспалітая была складанай з'явай і патрыятызм Вялікага княства Літоўскага не перашкаджаў быць таксама патрыётам супольнай дзяржавы. Касцюшка, відавочна, збіраецца абараняць перш за ўсё сябе самога, г.зн. Вялікае княства, а толькі пасля Карону Польскую. Відаць, бліжэй кашуля целу. Іншая справа, што на той час абарону адной часткі Рэчы Паспалітай без другой немагчыма было сабе ўявіць. Немагчыма такім чынам дакараць Касцюшку ў тым, што ён не быў свядомым беларусам і абараняў чужыя інтарэсы. На мой погляд, у асобе Касцюшкі наглядаем столькі праяваў беларускасці, колькі іх магло быць у дадзеных гістарычных абставінах. Самае важнае, Касцюшка, чый бацька быў забіты ўзбунтаванымі сялянамі, стаў народным героем. Беларускія сяляне лічылі яго асілкам, які падняўся на барацьбу за іхнюю свабоду і загінуў у бітве ў выніку панскай здрады (так канчаецца ўспомненая мною песня „Наш Касцюшка слаўны быў”). Яго слава не мае нічога супольнага са штучным культам асобы Каліноўскага, створаным беларускімі бальшавікамі ў 20-тыя гады нашага стагоддзя.

Я глыбока перакананы, што беларусы не павінны ствараць сваю нацыянальную традыцыю, пераймаючы некрытычна ўсе польскія і літоўскія міфы. Мы — сялянская нацыя і Касцюшка быў наш, бо сваім яго палічылі нашыя сялянскія продкі. Хопіць прыслухацца песні, якая далящела да нас праз стагоддзі ліхалецця:

*Вазьмі, маці, пяску жменю,*
*Пасей на каменю.*
*Калі той пясок узыйдзе*
*Касцюшка з вайны прыйдзе.*

*Ляціць воран цераз мора,*
*А лятучы, крача.*
*А хто ж майго Касцюшачкі*
*Магілку аплача?*

Гэтую песню напэўна не склалі палякі.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

**Новыя вершы**

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

**сонца ў чайніку**

сонца ў чайніку
не зусім ужо свежае
і не зусім залатое
пераварылася
закіпела
прасякла горкім пальном кафеіну
сонца ў чайніку не кліча ў вырай
каляровай птушкі не прытуліць
распасціраецца парыжэлай
хусткай бабулі
і не калясіць
крыкам ястрабіным
сонца ў чайніку
не зусім ужо маладое
і не зусім юрлівае
яшчэ палохае меднай грываю
яшчэ сонца
а ўжо савой пралятае апоўдні
і сцягне ноч у бясконцасць

**злачынцы...**

злачынцы ноччу не ідуць у лес
дзе мёд маўчання знясіляе
іх далоні
аграбіць з гордасці дуброву
крыніцу з вечных задуменняў
сорам бяроз прадаць
каму
скупшчык не кіне тут талерам
злачынцы ноччу не ідуць у лес
туды дзе сонна сцяжынай
пад парасонамі галля
праходзіць горкае сумленне
аганьбаваных тратуараў

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## X. Транспарт.

У Беларусі развіты розныя віды транспарту — чыгуначны, аўтамабільны, водны, паветраны, трубаправодны.

Сетка чыгунак на тэрыторыі Беларусі фарміравалася пачынаючы з 60—70-х гадоў мінулага стагоддзя. Самая галоўная чыгунка — гэта лінія Масква—Варшава, пабудаваная ў 1871 г. На гэтай лініі стаяць: сталічны Менск, Орша, Барысаў, Баранавічы і Брэст. З паўночнага захаду на паўднёвы ўсход праходзіць чыгуначная лінія Рыга (і Калінінград) — Гомель. На ёй гарады Маладзечна, Менск, Бабруйск, Жлобін, Гомель. Гэта дарога пабудавана ў 1873 г. Найбольшы рух прыпадае на ўчастак дарогі паміж Менскам і Маладзечнам. Важнае значэнне мае таксама дарога Пецярбург—Адэса. На ёй размешчаны гарады Віцебск, Орша, Магілёў, Жлобін. У паўднёвай Беларусі з Брэста на ўсход да Гомеля праходзіць Палеская чыгунка, пабудаваная ў пачатку XX ст.

Агульная даўжыня чыгунак складае цяпер амаль 6 тысяч кіламетраў. Поўнасцю электрыфікаваны беларускі ўчастак чыгункі Масква—Брэст і ўчасткі Менск—Маладзечна, Менск—Асіповічы. Галоўнымі чыгуначнымі вузламі з'яўляюцца Орша, Брэст, Баранавічы, Менск і Гомель.

Беларусь мае густую сетку шасейных дарог. У ліку найважнейшых аўтадарог шасэ Масква—Менск—Брэст, шасэ Менск—Магілёў, Менск—Гомель, Менск—Вільня. Аўтамабільны транспарт пераважна перавозіць мясцовыя грузы і толькі часам выкарыстоўваецца для дальніх перавозак. Але асабліва вялікае значэнне мае ён для перавозкі пасажыраў.

Агульная працягласць суднаходных водных шляхоў Беларусі складае цяпер каля 4 тыс. км. Пераважная частка грузаабароту рачнога транспарту прыходзіцца на Дняпроўска—Прыпяцкую сістэму, уключаючы Дняпроўска—Бугскі канал.

Паветраны транспарт выкарыстоўваецца для перавозак пасажыраў, пошты, для аказання тэрміновай дапамогі хворым, а таксама для тушэння лясных пажараў і ў сельскай гаспадарцы (падкормка раслін мінеральнымі ўгнаеннямі, апыленне хімікатамі).

Па Беларусі праходзяць газаправоды і нафтаправоды. Праз паўднёвую частку рэспублікі нафтаправод „Дружба” ідзе ў Польшчу і іншыя краіны.

**Ю. БАЕНА**




## „ПАДБАЙЦЕ АБ КУЛЬТУРУ МОВЫ!”

**Дарагі Сакрат!**

Мы пры нагодзе прэтэндуем „у вечны лік яе аўтараў...”, калі пішам у „Ніву” свае карэспандэнцыі. Я не мушу ўваходзіць у „вечны лік” ніўскіх аўтараў, я вольны чалавек. Калі нешта не падабаецца мне ў сучаснай рэчаіснасці, у выказваннях аўтараў „Нівы”, якія часам выпісваюць дурнату, бяру пяро і пішу. Пішу і тады, калі хачу падзяліцца і сваімі думкамі. Пісанне, гэта маё права ў вольнай і дэмакратычнай дзяржаве і вольная воля „Нівы” гэтае друкаваць. Так трэба разумець узаемныя дачыненні карэспандэнтаў і рэдакцыі.

Вышэйнапісанае мною не трэба разумець як пахвалу неахайнага пісання. А так папраўдзе то ў „вечны лік” уваходзяць ідэі, думкі і іх аўтары.

Чакаем, Сакрат, далейшых ўспамінаў пра задрыпаную маладосць.

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ**

# Зорка
## старонка для дзяцей

*АЛЕГ МІНКІН*

### КРАСАВІК

Здараліся адлігі,
І зноў кружыўся снег,
А сёння крыгі, крыгі
Распачалі свой бег.

Блакіт нябёсаў яркі,
Гракоў бадзёры крык —
Плыве на крызе шпаркай
Вясёлы Красавік.

— Куды вядзеш ты спрытна
Свой крыгу-карабель?
— У майскі край блакітны
За трыдзевяць зямель!



*Дзяўчаты з Нарвы.* **Фота Ганны Кандрацюк**

З беларускай гісторыі

## ЗАБЛУДАЎСКАЯ ДРУКАРНЯ

Заблудаўская друкарня была заснавана ў 70-ыя гады XVI стагоддзя ў маёнтку і на сродкі беларускага магната Рыгора Хадкевіча. Ён быў ініцыятарам стварэння гэтай друкарні. Чынны ўдзел у яе арганізацыі ўзялі маскоўскія друкары Іван Фёдараў і Пётр Цімафееў Мсціславец. Яны пераехалі з Масквы на Беларусь, пасля выдання Часоўніка 1565 года — другой маскоўскай дакладна датаванай кнігі (першая — Апостал 1564 г.).

Першым заблудаўскім выданнем было Навучальнае евангелле, якое ўбачыла свет 17 сакавіка 1569 года. Кніга, надрукаваная фарматам „у аркуш", добра вядома, тры яе экземпляры знаходзяцца ў Беларусі. У ёй 408 аркушаў. Евангелле набрана шрыфтам маскоўскага Апостала (1564) з вышынёй ачка (без вынасных элементаў) 3 міліметры і вышынёй 10 радкоў, роўнай 85 міліметраў. У практыцы беларускага кнігадрукавання гэты шрыфт быў выкарыстаны ўпершыню.

Другое заблудаўскае выданне — Псалтыр з Часасловам — было надрукавана 23 сакавіка 1570 года. Іван Фёдараў выпусціў гэтую кнігу без Пятра Мсціслаўца, які пасля выхаду Евангелля пераехаў у Вільню.

Роля Заблудаўскай друкарні ў развіцці кірыліцкага друку на Беларусі — значная. Пасля спынення кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны ў Вільні (каля 1525 г.) кірыліцкія выданні на Беларусі друкаваліся не рэгулярна (вядомы Катэхізіс Сымона Буднага 1562 г., Евангелле Васіля Цяпінскага ў 70-ыя гады XVI стагоддзя). Пасля Заблудава ж кірыліцкі друк значна пашырыўся. Адзін з галоўных герояў заблудаўскай друкарні — Пятро Мсціславец — стаў заснавальнікам найбольш буйной друкарні Мамонічаў у Вільні. Іван Фёдараў пераехаў з Заблудава ў Львоў, дзе заснаваў украінскае друкарства. На Украіну былі перавезены і дошкі асобных гравюр заблудаўскіх кніг („Цар Давід" і інш.). Заблудаўскія майстры, у прыватнасці Грынь Івановіч, прынялі чынны ўдзел у друкаванні і аздобе украінскіх кніг (у тым ліку славутай Астрожскай Біблії 1588 г.). Пасля Заблудава на Беларусі ў кірыліцкіх выданнях (асабліва ў Мамонічаў) пашырыўся паўустаўны шрыфт, друкарскія арнаментыка і ініцыялы.

**В. ШМАТАЎ**

## ХТО РУКАВІЧКУ ЗГУБІЎ?

— Но! Ах, каб цябе камар убрыкнуў!

Дзед Патап сцебануў Гнядога доўгім лазовым дубцом. Конь зафыркаў і хутка пабег. Заляскаталі па сухой дарозе, узнымаючы пыл, калёсы. На невысокай бярозе спалохана залапатала дужымі крыламі птушка, пераляцела перад самым гнядым і схавалася ў лесе.

— Дзядуля, а я не баюся! Но, но! — крычаў услед за дзедам Лявонка, трымаючыся за драбіны.

Дарога пайшла на пад'ём. Гняды перастаў бегчы. Лявонка азірнуўся і спытаў:

— Дзядуля, скажы, на бярозе курапатка сядзела?

— Ды не, унучак. Курапатка ніколі на дрэва не садзіцца. Вяхір гэта быў. Дзікі голуб так называецца. Не ведаеш, Лявонка, такой птушкі?

— Не, не ведаю, — ціха прызнаўся Лявонка і сарамліва апусціў вочы.

— Нічога, не бядуй, — сказаў дзед Патап і лагодна прытуліў да сябе ўнука. — У нас не тое, што ў горадзе. Пакуль восень надыдзе, я табе і зайку пакажу, і курапатку, і дразда, і сойку, і івалгу...

— Праўда, дзядуля? — узрадаваўся Лявонка.

— А нягож, — засмяяўся дзед Патап. — А вечарам я табе, Лявонка, барсука пакажу. Ведаю тут мясціну адну, дзе жыве ён...

Не агледзеліся, як на луг прыехалі. На лузе ў траве зялёныя конікі стракаталі. Неба было чыстае, без ніводнай хмаркі. Моцна пякло сонца.

Дзед Патап зграбаў сена, а Лявонка гуляў ля рэчкі.

— Дзядуля, глянь сюды, нехта рукавічку згубіў! — крыкнуў раптам Лявонка.

— Дзе, хто згубіў што? — здзівіўся дзед Патап, паклаў на купіну граблі і падаўся да ўнука.

— Во, на кусце рукавічка вісіць!

— Не, Лявонка, не рукавічка гэта, а гняздо рэмеза, птушачкі такой невялічкай.

— А птушачка дзе?

— Паляцела, мусіць, корму шукаць для сваіх дзетак.

— Дзядуля, — папрасіў Лявонка. — Давай схаваемся за кустом і пачакаем, пакуль рэмез прыляціць.

— Добра, Лявонка, — згадзіўся дзед. — Вось тут за парэчкамі і прысядзем. Сам паглядзіш, якая гэта прыгожая птушачка.

Падзьмуў, захістаў галінку вярбы, на якой вісела гняздо, вецер. Гняздзечка закалыхалася.

— Дзядуля, а яечкі ў гняздзе разаб'юцца? — запытаў Лявонка.

— А чаго ім біцца... Рэмез — птушка разумная. Знясе вясною самае першае яечка і адразу ж абкладае яго пухам. Знясе другое, такое ж самае робіць. Знясе трэцяе — і над ім шчыруе. Навальніца бушуе, вецер галіны долу гне, гняздзечка гайдаецца сюды-туды, а яечкам у ім хоць бы што, бо кожнае з іх у мяккай пасцельцы ляжыць. Вось так, Лявонка.

Яны не ўгледзелі, як прыляцеў і апусціўся на вярбу рэмез. Першым яго ўбачыў дзед і, каб не спалохаць птушку, прашаптаў унуку:

— Лявонка, глядзі, вунь птушачка сядзіць. Гэта і ёсць рэмез. Бачыш, у дзюбцы кузурку трымае.

— Ага, бачу, — ціха адазваўся Лявонка. Ён ужо забыўся пра ўсё на свеце і не мог адарваць позірку ад гэтай маленькай і надта ж прыгожай птушачкі. Спінка ў рэмеза рыжая, галава і шыйка белыя, ад тоненькай вострай дзюбкі да самага вуха чорныя палоскі, а на грудзях і баках карычневыя стракацінкі.

Рэмез пакруціў у бакі галоўкай і, не згледзеўшы вакол нічога падазронага, хуценька юркнуў у гняздо.

— Ну, вось, цяпер ведаеш, хто рукавічку згубіў? — спытаў у Лявонкі дзед.

— Ага, ведаю, — жвава адказаў Лявонка. — Гэта не рукавічка, а гняздо рэмеза.

**ІВАН ГАЛУБОВІЧ**

*УЛАДЗІМІР МАЦВЕЕНКА*

### ЗАГАДАНАЧКА

1

Унутры
Кардоннай хаткі
Спяць радком
Браты-блізняткі.
Толькі ў кожнага
Блізняткі
Свайго колеру
Апратка.

2

Ад сонца
Нараджаецца,
За ўсімі
Ён ганяецца.
Як толькі
Сонца зойдзе,
Яго ніхто
Не знойдзе.

3

Пад лісточкам,
На кусточку,
У чырвоным
Каптурочку.
На гародзе
Вырастала,
Цуда-ягадкаю
Стала.

4

Ён ляжыць
Альбо вісіць...
А пачне ледзь
Галасіць —
Дзеткі носяцца
Штораз
Ці то з класа,
Ці то ў клас.

5

Дзве
Блакітныя палавіны
Умясцілі
Ўсе краіны.
Яны ў школе
На сцяне.
Ведаеш ты іх
Ці не?

6

Сонца летняе пячэ
Альбо дождж маросіць —
Футра шэрае яшчэ
Ён да часу носіць.
Холадам дыхне зіма,
І ўсім на здзіўленне
Футра шэрага няма —
У белым ён адзенні.

7

У нядзелю
Ўсім садком
Мы хадзілі
Ў гэты дом.
Там,
У сонечных святліцах,
Дрэмлюць
Кніжкі на паліцах.
Кнігалюб,
Казалі мне,
Гэты дом
Не абміне.

8

Чараўнік ён,
Гэты дзед.
Завітаў к нам
Пад абед.
А праз тыдзень
Лёг наўпрост
Цераз рэчку
Новы мост...

9

Ён у мокрай
Век апратцы,
Па траве
Бяжыць і
Хатцы.
Яго тонкіх
Доўгіх
Ножак
Палічыць ніхто
не можа.

10

Хатку татка
У дом прывёз,
У той хатцы
Дзед Мароз.
Ён там спіць
І ў сне
Буркоча,
Паказацца мне
Не хоча.

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

**(22)**

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## Дайце іншага суседа!

Гульня гэта незвычайная. Мы будзем... шукаць суседзяў.

— Якіх суседзяў? Для чаго? Нашто яны нам? — пасыпаліся пытанні.

— Каб падказвалі на дыктоўках, — прабасіў Эдзік. Усе засмяяліся, і настаўніца таксама.

— Не, не тых суседзяў, — удакладніла яна. — Суседзяў для літар! Будзьце вельмі ўважлівымі. Як толькі я скажу слова, у якім гук просіць іншага суседа, а значыць — і літара, адразу ўстануць тыя, хто можа такога суседа прапанаваць. Толькі адразу ж! І тады — кожны ў сваім радзе — дасць ім фішкі, калі гэты сусед, вядома, падыходзіць. Тыя, што спазніліся, фішак не атрымліваюць.

І настаўніца вымавіла першае слова: [*проз'ба*]. Падскочылі амаль усе! Праўда, пры праверцы выявілася, што ў кожнага было адно з трох слоў *(просім, просяць, прасіць)*, але ўсе атрымалі па фішцы. Асістэнты захваліваліся, што ў іх фішак не хопіць, а настаўніца прамовіла наступнае слова: [*л'еб'ец*]. Цяпер падняліся толькі двое. Адзін атрымаў фішку за слова *лебедзі*, у другога прыклад быў няўдалы *(лепяць)*...

Перамагае ў гульні той, у каго больш фішак.

## Бачым адно — чуем другое

Аб'яўляецца конкурс: трэба скласці сказы, у якіх ёсць выпадкі разыходжання вымаўлення і напісання. Пасля заканчэння прызначанага тэрміну (тыдзень-два) падводзяцца вынікі. Улічваецца колькасць складзеных удзельнікам конкурсу сказаў, наяўнасць у іх патрэбных арфаграм (сказы могуць быць і жартоўныя, і ў выглядзе дыялогаў і інш.). Можна вяртаць канкурсантам сказы на дапрацоўку, але ў межах конкурснага тэрміну. Канчатковы вынік — колькасць сказаў, прынятых да гульні, і колькасць у іх арфаграм — падводзіцца пасля заканчэння тэрміну. Гэтыя сказы і будуць запісаны на карткі, з якімі будзе праводзіцца гульня.

Карткі робіцца перфарыраваныя, напрыклад: *Мядзве..ь пале.. на ду.., ка..ра..ыцца сало..кім мёдам. А..пачывалі на рэ..цы. Пераходзілі пра.. слі..кую кла..ку на той бера.., дзе рос вя..*.

Праўда, перфарацыя падказвае, на што трэба звярнуць увагу, і таму, магчыма, лепш пісаць на картцы поўны тэкст, напрыклад: *Голуб з шумам узляцеў на стол і пачаў дзяўбці аладку* — самастойна вызначыць „небяспечныя" месцы значна цяжэй.

Гульня пачынаецца так. Удзельнікі выходзяць па двое, адзін цягне картку і чытае моўчкі сказ, затым дыктуе яго другому, а той запісвае на дошцы. Вядучы (журы) адзначае колькасць арфаэпічных і арфаграфічных памылак (асобна) і каменціруе іх пасля заканчэння гульні. Ачкі налічваюцца парам, але можна падвесці і асабісты рахунак, асабліва ў наступным варыянце.

*Варыянт*-маўчанка: Перад кожным кладзецца картка надпісам уніз. Па сігналу ўсе бяруць карткі, моўчкі чытаюць іх, а затым запісваюць так, як трэба іх прачытаць, і здаюць у журы. Для аблягчэння работы пад напісаным на картцы сказам перфарыруюцца 3—4 палоскі для запісу транскрыпцыі, а ўнізе — два акенцы для прозвішча і колькасці памылак. Кожную памылку ў час праверкі можна ў прорэзах адзначыць фламастэрам светлага колеру (жоўтым, чырвоным, блакітным — каб праз колер бачна было напісанае).

У час гульняў не забывайцеся, што правільна вымаўляць неабходна не толькі асобныя словы, але і спалучэнні слоў *(над домам, нат хатай)*.

## Вам прызначае сустрэчу...

Вядучы аб'яўляе:

— Вам прызначаў сустрэчу гук [т].

Гэта значыць, што ў словах і сказах, якія будуць чытацца, трэба сустрэцца толькі з гэтым гукам. Колькі будзе такіх сустрэч — палічыце самі (можна кожную сустрэчу адзначыць палачкамі або кропкамі на лістку).

Вядучы чытае ў звычайным тэмпе і па ўсіх правілах беларускага вымаўлення; ад удзельнікаў патрабуецца пільная ўвага, бо ў словах і сказах будзе шмат выпадкаў, дзе арфаграфія не адпавядае арфаэпіі.

Сустрэчу можа прызначыць не толькі гук, але і літара, і тады пад увагу прымаецца тое, як слова пішацца. Напрыклад, калі ў вас сустрэча з літарай г, то вы, безумоўна, не будзеце шукаць яе ў слове *порах*, але не прагледзьце яе ў слове *парог*, дзе яна надзела маску гука [х].

*(працяг у наступным нумары)*

*МАР'ЯН ДУКСА*

## НЕ ХАПІЛА

Прыляцелі — шум які! —
зноўку з выраю шпакі.
Праз чатыры, можа, хвілі
ўсе шпакоўні расхапілі.
Расхапілі, разабралі,
засвісталі па чарзе,
засвісталі,
ды не ўсе.
Змоўклі
два шпакі ў адчаі:
„Нам вось хаткі не хапае..."
— Не хапае!
— Не хапае! —
чарада шпакоў гукае.
Чутка вуліцай бяжыць:
— Двум шпакам няма дзе жыць!
Непрыемнасць у дзяцей:
— Падвялі сваіх гасцей.
Хаткі цёплай не ўручылі —
як жа так не разлічылі...
Пэўна, трэба ў дні такія
мець шпакоўні запасныя...
Закрычалі хлапчукі:
— Не гаруйце, два шпакі!
Стукнем, грукнем па фанеры —
атрымаеце кватэру!
Будзе ў ёй усё, што трэба:
жоўты дах,
акенца ў неба.

## ЦЕРАМОК

Хведар і Цімох — цесляры. З літар Ц і Х зрабілі хатку: Ц — сцены, Х — дах. Вось і цудоўная хатка-церамок. Усе цацкі захацелі гуляць з Хведарам і Цімохам. Ды не ўсіх прымаюць у церамок.

Цапу-лапу, хапу-лапу — падыходзіць к церамку цэлая хмара.

— Хто ты? — пытаюцца Хведар і Цімох.

— Хобат-Хабатовіч. Працую ў цырку. Магу насіць хваёвыя хлысты. Умею вазіць дзяцей. Вазьміце ў церамок.

— Праходзьце, Хобат-Хабатовіч.

Прыляцеў новы госць. Сядзіць на даху, просіцца:

— Пусціце ў церамок.

— Хто ты?

— Цёх-Цёх. Спяваць хачу ў церамку: цёх-цёх-цір-р-р, цёх-цёх-цір-р-р...

Жывуць у церамку Хведар, Цімох, Хобат-Хабатовіч, Цёх-Цёх. Ды раптам — ціў-ціў.

— А вы хто?

— Ціпкі. Пусціце пагрэцца.

— Заходзьце, жоўценькія дзьмухаўцы.

— Цяў-цяў, вазьміце і мяне. Буду вартаваць церамок.

— Цю-цю, заходзьце, Цяўка.

Адгадайце: хто-хто цяпер у церамку?

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Вучні збіраюцца ў падарожжа. Настаўнік пытаецца:

— Што вы зробіце, калі вас у дарозе застане навальніца?

— Пападаем на зямлю, — кажа Віця.

— Чаму?

— Няхай маланка думае, што мы ўжо нежывыя.

* * *

На ўроку геаграфіі.

— Чым характэрныя краіны, дзе часта ідзе дождж?

Янка задумоўваецца, а потым кажа:

— Там людзі заўсёды носяць парасоны!

* * *

Хлопцы пайшлі ў заклад на дваццаць тысяч злотых, хто з іх найлепшы ілгун.

— Я ўчора выскачыў з акна дзесяціпавярховага дома і паляцеў! — кажа першы.

Другі ўзяў дваццаць тысяч і кажа:

— Праўда. Я бачыў, як ты ўчора ляцеў.

* * *

Міколка спыняе аўтамашыну:

— Дзядзьку, падвязіце мяне ў школу!

— Я еду ў іншым напрамку.

— Тым лепш для мяне, у нас сёння дыктант.

Падборку зрабіў
**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

## ЛОСЬ

Лось — самая буйная пасля зубра капытная жывёла на Беларусі. У яго вялікая гарбаносная галава з тоўстай верхняй губой і буйнымі вушамі. Рогі мае толькі самец.

Па знешняму выгляду лось вельмі нязграбны. Масіўнае кароткае тулава трымаецца на доўгіх нагах. На спіне высокі загрывак утварае як бы горб. Але нягледзячы на нязграбнасць гэтыя жывёлы лёгка, бясшумна і вельмі хутка перамяшчаюцца па лесе. Даўжыня цела дарослага самца дасягае 3 метраў, маса — 500 кілаграмаў.

Лось — лясны жыхар. Улюбёныя месцы яго — старыя гары (пажарышчы), зарослыя лесасекі, узбярэжжы лясных рэк і ручаёў, балоцістыя багны, берагі азёр. Корміцца лось лісцем, парасткамі дрэў, кустоў, іхмамі, лішайнікамі, грыбамі. У яго рацыён уваходзіць больш за 250 відаў раслін (вярба, асіна, рабіна, сасна, чаромха, чарніцы, брусніцы, верас, крапіва, скрыпень, асака і інш.).

У верасні ўранку і ўвечары на адкрытых лясных палянах або ў рэдкіх маладняках чуецца адрывістае і глухое рыканне — „стогны" самцоў ласёў. „Стогн" ласся ў ціхае надвор'е чуваць прыкладна за паўкіламетра. Гэта пачаўся шлюбны перыяд. У сярэдзіне мая самкі нараджаюць 1—2 даўганогіх нязграбных ласянят. Яны карычневыя, з вялікімі галовамі. Настолькі слабыя, што нават не могуць доўга стаяць на нагах-ходулях, падужэўшы ж, становяцца цудоўнымі бегунамі. Працягласць жыцця лася 18 гадоў.

Зіма — цяжкая пара для лася. Уважліва прыслухоўваючыся да кожнага шораху, ходзяць па лесе табункі. Глыбокі снег, моцны холад, цвёрды шарпак і галалёдзіца, далёкія пераходы ў пошуках корму робяць пакутлівым жыццё дзікіх капытных, асабліва маладняку.

А знясіленыя жывёлы — лёгкая здабыча драпежнікаў. Таму ў запаведніках, паляўнічых гаспадарках людзі дапамагаюць дзікім жывёлам перанесціь цяжкасці зімы. Нарыхтоўваюць для ласёў сена, валяць асіну (ласі кормяцца карой).

У апошнія гады назіраецца прыкметнае павелічэнне пагалоўя лася. Зараз у Беларусі цяжка назваць раёны, дзе б ён не сустракаўся.

**А. КУРСКОЎ**

# СЯДЗІЦЬ КАМАР НА ДУБОЧКУ

Сядзіць камар на дубочку,
На зялёненькім лісточку.
Ай, люлі-люлі-люлі,
На зялёненькім лісточку.

Сядзіць камар, папявае,
Чорных мушак забаўляець.
Ай, люлі-люлі-люлі,
Чорных мушак забаўляець.

Наляцела шура-бура,
Камарочка з ліста здула.
Ай, люлі-люлі-люлі,
Камарочка з ліста здула.

Прыляцелі тут дзве мушкі,
Ўзялі камара пад ручкі.
Ай, люлі-люлі-люлі,
Ўзялі камара пад ручкі.

Ўзялі камара пад ручкі,
Сунулі яго ў падушкі.
Ай, люлі-люлі-люлі,
Сунулі яго ў падушкі.

Як прыехаў цар-палкоўнік:
— Што у вас тут за пакойнік?
Ай, люлі-люлі-люлі,
Што у вас тут за пакойнік?

— Гэта зусім не пакойнік,
А там мухін палюбоўнік.
Ай, люлі-люлі-люлі,
А там мухін палюбоўнік.



## ЛАГАГРЫФ

1. дрэва з белаю карою, 2. любімы занятак дзяцей, 3. важная частка нагі, 4. тата, 5. чорнае адзенне як сімвал вялікага смутку, 6. гародніна з сакавітым аранжавым коранем.

Вылучаныя літары складуць назву расліны, якую найчасцей вырошчваюць беларусы.

**АДГАДКІ НА ЗАГАДКІ**

1. Каляровыя алоўкі. 2. Цень. 3. Трускалка. 4. Званок. 5. Карта. 6. Зайка. 7. Бібліятэка. 8. Дзед Мароз. 9. Дождж. 10. Халадзільнік.

**АДГАДАНКА „ПАДАРОЖЖА"**

**Бачым адно — чуем другое.** *Мядзвецьпалеснадуп, кабражжыцца салоткімёдам. Атпачывалінарэцы. Пераходзіліпрасьсліскуюклатку натойберах, дзеросвяс. Голуп шумамузьляцеўнастол іпачаў дзяўбці-алатку.*

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЙНЫ

## Частка II

Арыштаваны Клішэвіч быў вывезены ў адзін з найбольш суровых ссыльных раёнаў неабсяжнага Савецкага Саюза. Папаў ён на Калыму. Знаходзіўся там на працягу доўгіх чатырох гадоў. Дваццацігадовы „вораг народа", „здраднік", „нацдэм" быў кінуты ў суровыя кліматычныя ўмовы, з якіх мала хто вяртаўся дамоў. Зрэшты, у разуменні тагачаснай улады чым меней вярталася з ссылкі, тым лепей. З мёртвымі не было клопату, з жывымі былі. Тым больш, што ні ў чым не вінаватыя і ў большасці не ворагі сацыялізму, пайшоўшы ў дзікія сібірскія варункі, вярталіся адтуль сапраўднымі ворагамі савецкай сістэмы. Праўда, афіцыйным тэзісам „исправительных работ" было перавыхаванне ссыльных, аднак, мабыць, ніхто з прадстаўнікоў савецкай улады ў такое перавыхаванне не верыў. У кожным разе не верылі ў перавыхаванне ў карысным для ўладаў духу. Магла быць гутарка толькі аб „прадукцыі" сапраўдных ворагаў савецкага ладу. Улады рабілі ўсё, каб вярталася іх са ссылкі як найменей.

Аднак Уладзімір Клішэвіч вярнуўся не таму, што быў выпушчаны на свабоду, а толькі таму, што пры наступных арыштах новых „ворагаў народа" ў нейкім там кантэксце ўсплыло прозвішча паэта. У такіх выпадках ужо сасланых вязняў прывозілі з лагераў на радзіму, каб зноў разглядаць іх справы. Найчасцей у такой сітуацыі ім падвойвалі прыгаворы і зноў пасылалі ў Сібір. Па сутнасці, мабыць, ніколі не здаралася, каб у такіх паўторных судах здымалі з арыштаванага віну і выпускалі на свабоду. Наадварот, павялічвалі тэрміны зняволення. Такая практыка вынікала з афіцыйнага тэзіса аб тым, што савецкае правасуддзе ніколі не памыляецца і што кожны прыгавораны мусіць быць вінаваты.

Ї так, у 1940 годзе ахоўнікі Народнага камісарыята ўнутраных спраў прывезлі з Сібіры ў Мінск Уладзіміра Клішэвіча, Масея Сяднёва і іншых былых студэнтаў. Мелі яны стаць перад судом, каб дадаткова адказваць за правіны, якіх ніколі не зрабілі. Аднак гісторыя не дала дастатковага часу савецкім уладам для таго, каб давесці да фіналу следства і засудзіць на многагадовае зняволенне, а можа і смерць нявінных ахвяры.

Выбух нямецка-савецкай вайны ў чэрвені 1941 года пакрыжаваў планы пракуратуры. Маланкавае наступленне немцаў перашкодзіла ў вывазцы вязняў у глыбіню Расіі.

Масей Сяднёў, які, як ужо было сказана, быў прывезены разам з Клішэвічам у Мінск, у эміграцыі напісаў, мабыць, аўтабіяграфічную аповесць п.з. „Раман Корзюк", у якой прадставіў лёсы студэнтаў, арыштаваных, асуджаных, вывезеных у Сібір і вернутых для перагляду справы ў Мінск.

У аповесці канваіры ў першыя дні вайны гоняць грамаду арыштаваных у глыбіню Савецкага Саюза. Калона зняволеных даходзіла да мястэчка Чэрвень і тут наступае фінал. Вось як яго апісвае Сяднёў у сваёй кнізе:

„Канвой звярнуў на бочную вуліцу і хутка мы апынуліся на двары чэрвеньскай турмы. Тут дадуць нам есці. Бацька можа крыху счуняе.

Настаў вечар. Над горадам праляцелі нямецкія самалёты. Скінулі бомбы (гаварылі мясцовыя зняволеныя) на аэрадром, што побач. Жыхары гораду, баючыся бамбёжкі, пакідаюць яго. Крыкі, гоман, шорах. Рыкалі каровы. Бляялі авечкі. Толькі апоўначы сціхла ўсё.

Уначы на двары было холадна. Раман накрыў сваёй калымскай целагрэйкай бацьку і ён заснуў. На двары гудзелі заведзеныя ваенныя грузавікі. На ганку яны падабралі літоўцаў і палякаў, што былі тут. Ї тады ж, на світанку, мы прыкмецілі — вышкі пустыя. Варта нас пакінула і вароты адчыненыя — ідзі куды хочаш".

Праўдападобна ў гэтай грамадзе быў таксама Уладзімір Клішэвіч. Ён таксама пабачыў адчыненыя турэмныя вароты. Ї зразумела, выйшаў праз іх на свабоду. Такім чынам у яго жыцці наступіў новы перыяд.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**12-11-1989 г.**

Падзеі прыспешваюць свой бег. Тое, што адбываецца на кантыненце, не можа не мець свайго ўплыву і на беларускую правінцыю. Беластоцкі край перастае быць плацдармам, унікальнай тэрыторыяй на арэале Беларусі. Скурчыцца да правінцыі ў агульнанацыянальнай правінцыі. Падае, нарэшце (!), наша значэнне як пасрэдніка for Mensk — from Mensk (...)

У Магдалінскай царкаўцы — беларушчына. Новая сітуацыя праваслаўя. Або будзе яно беларускім — або ссохнецца. (...)

**13-11-1989 г.**

(...) Толькі сёння даслалі мне з Варшавы (—Бэрдыхоўская) два экз. выдадзенай па-беларуску ў маім перакладзе выбарчай праграмы „Салідарнасці". Беласточкія салідарнікі не дапусцілі да кальпартажу г. брашуры, бо... w kacapskim języku!

**24-12-1989 г.**

(...) Падумваю над нейкай рэальнай канцэпцыяй беларускай палітычнай дзейнасці. Будзе эфемерыда, калі не ўдасца ўтварыць прынамсі адну грашаносную фірму. Ї па-другое: акуратнае выдаванне бюлетэня. Грошы і друк развярушаць актыўнасць. Але гэтую актыўнасць нельга штучна навінчваць; мусяць знайсціся такія людзі, якія возьмуцца за дзейнасць не на адзін сезон і не дзеля адных грошай.

Лёнік (10-га): — Не можа быць так, што яны толькі водку п'юць, а я за іх дзейнічаю!

Ён меў на ўвазе БАС. Яму здавалася, што калі пакажа маладым, як трэба працаваць на грамадскай ніве, то яны пойдуць яго следам. Не так усё проста, Лёнік! Нічога не варты прыклад, адрасаваны да тых, хто не даспеў пераняць яго. Усё роўна, бы ў асяроддзі „Грамады", у якім толькі Максімюк мае амбіцыю гаварыць на культурнай беларускай мове (у іншых — „трасянка").

**26-12-1989 г.**

Зноў Стахвюк: застуджаны, гаваркі, хаатычны. Аднае размовы з ім досыць, каб пачуцца стомленым. Усё нешта плануе, з чаго потым мала толку. (...)

**29-12-1989 г.**

Заканчваецца год. Думкі наогул сумныя. Ёсць і аптымізм. Хлопцы апякліся на шалапуцтве і пасталелі. Цяжарнасць з беларускім палітычным рухам працягваецца. Роды яго адбудуцца па-за ўсякай нормай. Яшчэ і эміграцыя рахітная...

„Спадару Сакрату Яновічу" — піша Чык. у „Ніве". (...) Не бачу сэнсу працягваць палеміку, не толькі з ім. Дарэчы, ён у чымсьці мае рацыю. Нават глыбейшую ад тае, што ў Геніка Міранавіча. (...) Гэтая публікацыя — на руку яна мне. (...) Не хачу стацца помнікам! Каб не выдзіўся рух. Аўтарытэтаў павінна быць шмат. Тады будзе мацата. (...)

Хлопцы часам злуюцца на мяне. Кажу ім: я адзін змог бы ўсё парабіць за вас, але гэта не выйсце на перспектыву.

Мы ж нацыянальная меншасць, прытым з шанцамі на смерць. Не можам ісці за метадамі ў нармальных народаў. Хаця б таму, што нам трэба перш даспець да нацыі. Мы ўсё яшчэ патэнцыяльныя беларусы. Як маса. Як грамадства.

**04-01-1990 г.**

(...) Ад суботы да аўторка — у Крынках. Новы год сустрэў, выйшаўшы з Таняй на поначны шпацыр па мястэчку (рынак, вул. Плянтанская). У кватэрах эліткі пілі і буянілі, а чэрнь спала ўжо. Недзе нават стралялі (?), нейкія выбухі (дубальтоўкі?) а дванаццатай пачуліся ад лясоў. Аніякае гаманы (рохкала ў скверыку пару п'яных да бяспамяцці). (...)

**11-01-1990 г.**

Каляда, мужыцкая Каляда. Каб яе адсвяткаваць, трэба мець здароўе! Не магу толькі есці і піць.

Не пішацца, халера! Усяго тры старонкі праз тыдзень, і то са скрыпам. Заўтра, можа, палягчэе... Адкідаю ўсякія афіцыйныя запрашэнні. (...)

*(працяг будзе)*

# КАШТОЎНАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ

Алесь Барскі ў сваёй каштоўнай публікацыі „Мая Наталля Арсеннева" ярка і дакладна выказаў свае меркаванні пра нашу вялікую паэтку. Чытачы „Нівы" даведаліся многа новага пра складанае жыццё нашай зямлячкі. Трэба было нямала жадання, цярплівасці і энергіі, каб вытрываць цяжкія абставіны так да вайны, як і падчас савецкай і нямецкай акупацый і на чужыне, куды закінуў яе лёс. Вядома, жыццё эмігранта ўслана не ружамі, але цернямі. У гэтых абставінах цела, якое дамагалася, каб пражыць, змагалася з душою, якая дамагалася, каб духова не памерці. Змаганне гэтае не перашкаджала Наталлі Арсенневай пісаць і ўзбагачваць нашу літаратуру залатымі сказамі. Феномен Наталлі Арсенневай заключаецца ў тым, што яна, маючы рускіх бацькоў, зрадніласся з беларускай моваай, культурай і гісторыяй. Быў гэта незвычайны подзвіг: паўсюдна адбываецца працэс пераходу акурат у супрацьлеглым напрамку. Ї, што найгоршае, у Беларусі паэтэса на працягу паўвека лічылася ворагам народа і пра яе ніхто не меў права ведаць. Публікацыю Алеся Барскага лічу вельмі каштоўнай, бо дагэтуль, бадай, ніхто ў такой ступені не знаёміў нас з Наталляй Арсенневай.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




*ДАНУТА БІЧЭЛЬ*

* * *

Дзе наш гасцінец спачыў на зялёным каберцы,
Поўнай самоты адмерана роўна па мерцы.
Vivat, маўклівыя вусны, маўклівыя сэрцы.

Vivat, Вінцук і Кастуся, Адам і Франуся!
Вы не пазналі? А я ваша ўнучка Дануся.
Тут, сярод вас, анікогачкі ўжо не баюся.

*21.9.94*

* * *

Маці, падбітая птушка, а вырай бясконцы
Толькі спрабуеш падняцца, ізноў цябе раняць.
Лупіць касцісты кулак, каб забіць тваю памяць.
Столькі ў вачах тваіх моцы, колькі нямоцы.

Лётаю ў снах над зямлёй. А прачнулася дзе я?
Толькі спрабую ўзляцець, і мне ставяць падножку.
Вось і ляжу, прыкаваная страхам да ложку.
Знікла пяшчота і шчырасць.
Знікае надзея.

Птаху Міхале! Твой конік — агністае крылле.
Божая воля стагоддзяў у вас за спіною.
Дык падніміце да сонца Радзіму са мною.
Пекла на шмат пакаленняў тут натварылі.

Тут, у пратухлым кутку, я зраўняна з усімі,
З тымі, хто вусны паганіць малітвай чужою.
Тут да цябе прытуляюся беднай душою,
Брат, не прызнаны Касцёлам, Апостал Максіме.

*22.02.94*

* * *

**конік гняды ў яблыкі наворвае бульбу.**
**якую капаю...**
**якую не садзіла...**

Думала: Божа мой, Божа!
Дні прападаюць у сне.
Як бы жыла я прыгожа —
Конік вазіў бы мяне!

Як жа ты там да відзэнька
зоркі згрызаеш з расы?
Косю мой, косю гнядзенькі!
Зглумзаў мае дзве слязы.

На здратаваным гасцінцы
каля халодных магіл
яблыкі ў косі на спінцы
хай не закоцяцца ў пыл.

Лепшую долю з-пад пылу
выцягнуць можна было б...
Косю ты, косю мой мілы,
Цёплыя губы і лоб.

*13.9.93*

*БАРЫС РУСКО*

**КРОКІ**

У блытаніне крокаў— дотык люстра
Крок першы — выток ачага
Крок у голасе — ачаг голасу
Крок у слове — голас слова
Крок у гульні — слова гульні
Кррок у часе — гульня часу
Крок апошні — час канца
У дасканаласці на падушцы сну
Ляжаць у радах крокі
і
У блытаніне крокаў — дотык люстра
Крок апошні — канец ачага
Крок у часе — ачаг часу
Крок у гульні — час гульні
Крок у слове — гульня слова
Крок у голасе — слова голасу
Крок першы — голас вытоку
У дасканаласці на падушцы сну
Ляжаць у радах крокі

# ЯШЧЭ РАЗ АБ ЕВАНГЕЛЛІ АД МАЦВЕЯ

У сваім артыкуле „Ці мытнік Левій быў евангелістам" я напісаў аб поглядах многіх вядомых заходніх біблеістаў на гэту тэму, з мэтай, каб нейкі праваслаўны тэолаг выказаў свае заўвагі на кожны пункт майго артыкула. Я нідзе ў ім не напісаў, што я з гэтымі ўсімі поглядамі поўнасцю згаджаюся, а толькі хацеў паказаць, што яны выступаюць у многіх польскіх кнігах і людзі, якія з імі сустракаюцца могуць мець нейкія сумненні. Я чакаў вельмі аб'ектыўнага адказу на ўсе, прадстаўленыя мною заўвагі, якія былі б зразумелыя, верагодныя і не нацягнутыя не толькі для веруючых у догмы і традыцыю Царквы, але нават для няверуючых, альбо сумняваючыхся людзей. І што мяне спаткала? Паявіліся два артыкулы. Адзін з іх — гэта злосны крык М. Панфілюка п.з. „Школа атэізму", з якой няма сэнсу весці дыскусію. Другі артыкул „Пільнуйцеся ад ілжывых прарокаў" спадара С. Н., спакайнейшы, але вельмі нацягнуты і неверагодны, які напэўна не пераканае сумняваючыхся.

Я спадзяваўся заўваг М. Панфілюка, бо мой артыкул — вада на яго млын, але не думаў, што ён закіне мне атэізм. Відаць ён не разумее значэння гэтага слова, бо паводле яго ўсе, хто не згаджаюцца з яго поглядамі на тэму Ісуса ці Евангелля — атэісты. У такім выпадку ўсе, якіх я ніжэй цытую і не толькі яны, але ўсе пратэстанты, яўрэі ці магаметане, — таксама „атэісты". Але, як пазітыўны прыклад неатэіста прыводзіць ён словы Льва Талстога, які, як вядома, быў адлучаны ад Праваслаўнай Царквы за свае погляды супраць боскасці Хрыста і за сумненні ў яго ўваскрэсенне з мёртвых. Ён не разумее значэння слова „пасіўны", якое можна знайсці ў кожным амаль слоўніку беларускай мовы, а шукае яго ў слоўніках італьянскім, нямецкім і лацінскім і не знаходзіць. Слова „пасіўны" паходзіць ад лацінскага слова „passivus", а не „passio" і не азначае „пакутаў", а толькі „неактыўны", бо Ісус паводле Евангелля не мог змяніць свайго лёсу, каб не быць распятым. Ён, як кожны чалавек, баяўся смерці і пасля Астатняй Вячэры маліўся:„Айцец Мой! калі гэта мажліва, хай мяне абміне гэта чаша. Аднак жа не так як Я хачу, але як Ты" (26:39) і пасля: „Айцец Мой! калі не можа гэтая чаша Мяне абмінуць, каб Мне яе піць, хай будзе воля Твая" (26:42).

М. Панфілюк называючы сябе антыкамуністам прымяняе камуністычныя метады: калі хто мае іншыя погляды чым ён, калі хто яму не спадабаецца, то стараецца ўтаптаць яго ў гразь. Толькі няведаннем гісторыі развіцця хрысціянства можна тлумачыць абвінавачанне мяне ў атэізме на падставе маіх слоў, што пад уплывам ап. Паўла пачалі прыцягваць язычнікаў да хрысціянства. Абшчына іудахрысціян у Іерусаліме доўгі час выступала супраць прынящця язычнікаў да хрысціян і толькі пасля Іерусалімскага Сабору ў 49 г., аб чым пішацца ў Дзеях Апосталаў (гл. 15), аблягчылі працэс хрышчэння язычнікаў.

У сувязі з другім артыкулам хачу сказаць, што „Ніва" з'яўляецца свецкім штотыднёвікам і яго чытаюць людзі не толькі веруючыя ў праваслаўныя догмы, але і тыя, якія маюць іншыя погляды і якіх трэба таксама дапускаць да голасу, ці гэта падабаецца С. Н. ці не. На тэму Евагнелля ад Мацвея прывяду словы з уступу да польскай „Бібліі Тысячагоддзя". Там пішацца: „Zjawisko podobieństw i różnic pomiędzy Mt, Mk, Łk (Mateuszem, Markiem, Łukaszem — мая заўвага) — zwane inaczej problemem synoptycznym — tłumaczy się tym, że dwaj chronologicznie późniejsi ewangeliści t.zn. Mateusz (lub dokładniej redaktor greckiej Ewangelii Mateusza) oraz Łukasz, korzystali z wcześniej zredagowanej Ewangelii Marka". З гэтага відаць, што ў „Бібліі Тысячагоддзя" згаджаюцца, што рэдактарам грэчаскага Евангелля ад Мацвея мог быць не ап. Мацвей. Калі нават ап. Мацвей напісаў нешта аб Ісусе і яно ўвайшло ў Евангелле, дык мы не ведаем што.

Прывяду цяпер цытаты з кнігі Уільяма Бэрклея „Ewangelia Św. Mateusza" (Tom I, Wyd. Polska Rada Ekumeniczna, Warszawa 1970 г.). На стар. 13 чытаем: „Po dokładnym zbadaniu sprawy dochodzimy do wniosku, że najwcześniej napisano Ewangelię Marka oraz, że pozostałe dwie Mateusza i Łukasza opierają się na niej. Ewangelię Marka można podzielić na 105 sekcyj. Z nich 93 występuje u Mateusza, a 81 u Łukasza. Ze 105 sekcyj Ewangelii Marka tylko 4 nie występuje ani u Mateusza, ani u Łukasza. Ewangelia Marka ma 661 wersetów, Mateusza — 1068, Łukasza — 1149. Mateusz posługuje się co najmniej 606 wersetami Ewangelii Marka, Łukasz — 320. Z 55 wersetów Ewangelii Marka nie podanych przez Mateusza 31 występuje w Ewangelii Łukasza. Tak więc z całej Ewangelii Marka tylko 24 wersety nie występują w Ewangeliach Mateusza i Łukasza. Dotyczy to nie tylko wersetów. Powtarzają nawet te same wyrazy. Mateusz posługuje się słowami Marka w 51%, Łukasz — w 53%". На старонках 14 і 15 паказваюцца стылістычныя папраўкі, якія ўвялі Мацвей і Лука ў свае Евангеллі ў сціхах Марка, каб іх прыгладзіць. На стар. 16 чытаем: „Uczeni wyrażają zgodną opinię, że pierwsza Ewangelia w tej obecnej postaci nie wyszła bezpośrednio spod pióra Mateusza. Ktoś kto był naocznym świadkiem życia Chrystusa nie potrzebował posługiwać się Ewangelią Marka, by z niej czerpać fakty dotyczące życia Jezusa. Jeden z najwcześniejszych ojców Kościoła, Papiasz, podaje niezwykłą, ważną informację: „Mateusz zebrał wypowiedzi pana Jezusa w języku hebrajskim". Na tej podstawie możemy wyrazić przypuszczenie, że nie kto inny, lecz właśnie Mateusz ułożył pierwszy podręcznik o nauczaniu Jezusa, książkę, z której, jako ze źródła, czerpali ci wszyscy, którzy chcieli się dowiedzieć czegoś o nauczaniu Pana. Pierwsza Ewangelia zawiera tak wiele materiału z tego źródła, iż nazwano ją imieniem Mateusza. (...) Markowi zawdzięczamy naszą wiedzę o zdarzeniach z życia Jezusa, a Mateuszowi o nauczaniu Pana".

У кнізе польскага біблеіста ксяндза Э. Дамброўскага „Glossy i odkrycia biblijne" чытаем аб Евангеллях: „Nie wiadomo, gdzie i przez kogo księgi te tak właśnie zostały nazwane. Po raz pierwszy w tym znaczeniu używa terminu „Ewangelia" św. Justyn w swej pierwszej „Apologii". Св. Іусцін напісаў сваю „Апалогію" каля 150 г. Да гэтага часу Евангеллі не мелі сваёй назвы і былі ананімнымі, а названні: ад Мацвея, Марка і Лукі паявіліся пазней. Клімент Александрыйскі жыў у II—III стагоддзі, Ірыней — таксама, а Яўсевій Кесарыйскі ў III—IV ст. Яны, як я ўжо пісаў, аўтарам першага Евангелля палічылі ап. Мацвея.

Здзіўляе мяне таксама загаловак артыкула „Пільнуйцеся ад ілжывых прарокаў". У маім артыкуле ніякіх прароцтваў не было і заходнія біблеісты, на якіх я спасылаўся, прарокамі ніколі не былі і не будуць. Калі іх погляды не падабаюцца спадару С. Н., ён мае права аб'ектыўна іх крытыкаваць, але называць іх „ілжывымі прарокамі" гэта ўжо злараднасць. А тым больш нельга прапанаваць не публікаваць гэтыя погляды (хаця яны могуць быць непрыемнымі), бо гэта прынясе больш шкоды, чым карысці. Хто захоча іх знайсці — знойдзе.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# СЦЕРАЖЫ, БОЖА, АД КЕПСКІХ СУСЕДЗЯЎ!

Прачытала я ў „Ніве" н-р 13 ад 27 сакавіка „Успаміны „правакатара" Яўгена Міpановіча і не чакала ўжо працягу тых успамінаў, а рашыла напісаць, што пра ўсё гэта думаю.

У ненайлепшым суседстве апынулася рэдакцыя. Ніщто так не можа вывесці з раўнавагі, як неспрыяльны сусед. А калі яшчэ займаецца ён інтрыгамі, а абвінаваціць хоча цябе?!

Адазваўся польскі нацыяналізм супраць беларусаў, ды не толькі іх, а ўсіх праваслаўных і іншых, хто не ідзе з ім у нагу. Найгоршая бяда, што беларусы не трымаюцца разам. „Нашыя" часта найгоршыя для сваіх, бо ўмеюць так апаганіць сваіх суродзічаў, што і вораг гэтага так не зробіць!

Дрэнна сталася, што журналіст быў нападпітку, а ў дадатак справа была перад дэманстрацыяй „Салідарнасці", будучай у пастаянным стрэсе пасля прайграных выбараў. Хто ведае, ці тыя, хто хацеў выкарыстаць інцыдэнт для расправы з беларусамі (а не давяло ўсё гэта, дзякуй Богу, да міжнацыянальнай калатні), не кінуцца біць працаўнікоў „Нівы"?

Найгорш, што ў цяперашні час так цяжка са сродкамі на выдаванне часопіса, ды не толькі на гэта. Як тут дапамагчы? Можа, запрапанаваць бацюшкам, каб прадаваць „Ніву" пры цэрквах? У нашым тыднёвіку вельмі добрая хрысціянская старонка, якая ёсць прыдатная ў рэлігійнай асвеце.

А, можа, зайграць нам у... „Таталётак", ці што? На Беласточчыне ўжо два супермільярдэры! Можа і нам лёс дапамог бы? Ї маглі б мы такое памяшканне дастаць, дзе нам і суседзі спрыялі б? Ну, дык што, прыйдзецца нам іграць на свой спакойны быт?

**АЎРОРА**

# „ПІЛЬНУЙЦЕСЯ АД ІЛЖЫВЫХ ПРАРОКАЎ"

Заклік аўтара артыкула „Пільнуйцеся ад ілжывых прарокаў", што друкаваўся ў „Ніве" н-р 12 ад 20 сакавіка 1994 г., каб Шатыловіч перастаў займацца на старонках „Нівы" сур'ёзнымі тэалагічнымі пытаннямі разумею ў наступны спосаб:

1. Шатыловіч і чытачы сваім розумам не могуць абняць „Свяшчэнная Пісанне". Толькі той, хто мае натхненне можа яго інтэрпрэтаваць.

2. Усходняя Царква мае свае аўтарытэры і іх трэба чытаць і верыць ім.

Затым пытаю С. Н., як разумець вольную волю чалавека (у тым выпадку — Шатыловіча) і Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва" публікаваць тое, што на іх думку надаецца да друку. А пры нагодзе, фундамент навукі — гэта логіка (яшчэ фактары), а не вера. Вера ў Бога з навукай нічога супольнага не мае. Калі б было інакш, то ў Польшчы было б 90% навукоўцаў.

Мікалай Панфілюк атаясамлівае камуністаў з людзьмі „з вышэйшай сферы": прафесарамі, інжынерамі. Цікавае адкрыццё. Няхай карэспандэнт з Дубіч адкажа, хто не з'яўляецца камуністам? Няўжо Сталін быў антыкамуністам, паколькі ён людзей „з вышэйшай сферы" пасылаў у лагеры або ў зямлю? А так усё іншае — нармальнае, маем вясну.

**М. К.**

# СУБОТА АКАФІСТА

Пятая Субота Вялікага Посту або субота перад Нядзеляй аб Прападобнай Марыі Егіпецкай называецца таксама **Пахвалой Прасвятой Багародзіцы** або **Суботай Акафіста**. Гісторыя гэтага дня выводзіцца з VII—IX стагоддзяў і мае дачыненне да трохкратнага ўратавання Канстанцінопаля ад захопнікаў, дзякуючы дапамозе Божай Маці. Субота пятага тыдня Святой Чатырадзесятніцы прысвячаецца малітоўнаму ўсхваленню Прасвятой Багародзіцы менавіта таму, што ў той час у 626 г. здарылася першае цудоўнае выратаванне сталіцы Візантыйскай Імперыі. Аблога горада ворагамі закончылася паражэннем і вывадам войска пасля таго, як патрыярх Сяргей, несучы Ікону Божай Маці Адзігітрыі, разам з народам абышоў з Хрэсным Ходам муры горада. У падзяку



за выратаванне жыхары маліліся ўсю ноч у царкве над берагамі праліва Басфор, усхваляючы заступніцтва Багамаці падзячным спяваннем — акафістам.

Акафіст быў напісаны з гэтай нагоды дыяканам Георгіем Пісідзійскім у 626 г. Само слова **акафіст** выводзіцца з грэчаскай мовы і абазначае: *а* — без, не + *кефідзен* — сядзець; даслоўна: я не сяджу. Ён — літургічны гімн у гонар Збавіцеля, Багародзіцы або святых, які чытаецца і співаецца стоячы. Акафіст складаецца з літургічных песень **кандакоў** (кароткіх) і **ікасаў** (разбудаваных, у якіх шырэй тлумачыцца змест кандакоў). Канчае яго малітва да Збавіцеля, Божай Маці або святога, якому ён прысвячаецца.

Выказваючы падзяку за выратаванне ў мінулым вернікаў ад ворагаў, Царква спалучае ў Суботу Акафіста малітву да Прасвятой Багародзіцы з просьбай збавіць і нас ад розных няшчасцяў ды прыняць пад сваю апеку. Прыгадвае таксама, што Яна — **заступніца роду хрысціянскага**.

**С.Н.**

# ДЗЕЎКА ПЕРШЫ КЛАС

Упершыню я ўбачыў яе, калі працаваў у кавярні. Адразу прыцягнула маю ўвагу. Простыя косы мякка клаліся на плечы. Сумнаватыя карыя вочы скрывалі загадкавую меланхолію. Усміхалася толькі куточкамі вуснаў. Была высокая і стройная, адзявалася скромна і элегантна. Яе тонкая прыгажосць зусім не пасавала да крыклівых заўсёднікаў кавярні, да яе гаману і папяросна-гарэлачнага туману.

— Глянь, якая чароўная жанчына, — звярнуўся я да сябра.

— Вядома — прастытутка.

— Ці ты здурэў! Так выглядае прастытутка?!

— Маеш, даражэнькі, вельмі ўстарэлае ўяўленне аб такога тыпу асобах. Цяпер яны не апранаюцца крыкліва і не малююцца, хаця і такія трапляюцца.

— Гэта класная жанчына!

— А ты думаеш, што шлюха не можа быць класнай? У гэтай прафесіі, як і ў кожнай іншай, існуе традыцыя: паслугі на розным узроўні і з адпаведнай аправат — як каму да спадобы.

— Можа гэта і так, але адносна яе напэўна памыляешся.

— Гарантую, што не.

Не хацеў я дапытвацца сябра, адкуль у яго такая ўпэўненасць; лепей часам жыць у несвядомасці. Адкрыццё, якое пачуў я ад сябра, не давала мне спакою: не пасавала яно да майго першага ўражання ад яе. Ды і не верыў я ацэнцы сябра. Праўда, часта бачыў гэтую дзяўчыну з адным пажылым, лысым як калена мужчынам, які мог быць яе дзедам, або з крыху маладзым мужчынам з выглядам добраадкормленага жыхара поўдня. Прысядаліся да яе і іншыя. Ды нечага дзівавацца: яе прыгажосць прыцягвала агульную ўвагу. З часам, аднак, пачаў штораз больш прывыкаць да думкі, што яна займаецца найстарэйшай прафесіяй свету. Кожны зарабляе на жыццё як умее і любіць. Праўда, калі мова пра гэта другое ў адносінах да яе, дык крыху сумняваўся. Бачыў яе даволі часта, вітаўся, усміхаліся мы да сябе ды час ад часу перакідваліся словам.

Аднойчы майго сябра наведаў яго знаёмы, прафесар аднаго з амерыканскіх універсітэтаў, які прыехаў адведаць краіну сваіх бацькоў. У яго гонар сябра наладзіў прыём, на які запрасіў і мяне. Пасходзіліся госці, толькі прафесар не з'явіўся ў пару. Але пасля нейкага часу раздаўся званок і ў дзверах паявіўся прафесар, трымаючы ў абдымках знаёмую мне з кавярні дзяўчыну. Я аслупянеў; ад нечаканасці ледзь не выпусціў з рук чарку. На шчасце, сябра шматзначна штурхнуў мяне ў бок. Прафесар тым часам знаёміўся з прысутнымі:

— Знаеце, улюбіўся я ў найпрыгажэйшую польку. Гэта — Янна.

— Вельмі нам прыемна, — адказвалі прысутныя.

Янна была збянтэжаная, нервова вадзіла за мною і сябрам вачыма. Баялася, відаць, каб ніхто не сказаў закаханаму амерыканцу, хто яна. Калі расходзіліся, спытала, ці яна можа мне заўтра патэлефанаваць. Я кіўнуў галавою і даў картку з нумарам тэлефона.

Патэлефанавала на другі дзень. Дагаварыліся спаткацца ў іншай кавярні. Калі я туды зайшоў, яна сядзела над попельніцай і нервова курыла папяросу. Не падымаючы на мяне вачэй, спытала:

— Скажаце яму?

— Напэўна не. Ні я, ні мой сябра.

— Напэўна?

— Я ж не дзіця. Гэта яго справа, або зарыентуецца або не.

— Залежыць мне на ім.

— Часова?

— Не, гэта справа сур'ёзная. Я ведаю, што ў маіх вуснах гучыць гэта дзіўна, але гэта праўда. Ён з'яўляецца вялікім шанцам для мяне.

— Не сумняваюся.

— Я добра адчуваю іронію ў вашым голасе. Маеце права так думаць, дык паслухайце.

Ї тут паплыў доўгі расказ пра дзяўчыну з невялікай вёскі. У сярэдняй школе яна не цікавілася хлопцамі — большасць часу праводзіла ў бібліятэцы ды і хлопцы не звярталі ўвагі на такую. На „прываткі" не хадзіла, бо і рэдка калі яе прасілі на такія вечарыны. Будучы ўжо студэнткай, запазналася з адным хлопцам, у якога і ўлюбілася. Быў ад яе на некалькі гадоў старэйшы, паходзіў з г. зв. „вялікага свету", недаступнага вясковай дзяўчыне. Яго маці была вядомай у краіне і за мяжою скульптаркай, а бацька — вядомым кардыёлагам. Справілі яны свайму адзінаму кватэру-кавалерку, у якую ён забраў Янну і там жылі з сабою. Бацькоў яе гэта моцна абурыла: гэта скандал, каб так без шлюбу жыць пад адным дахам. Не на гэта яны дачку гадавалі: або шлюб, або і знаць яе не хочуць! Янна выбрала другое, бо яе каханы са шлюбам не спяшаўся. Ды ў хуткім часе яна, вясковая дзяўчына, абрыдла яму і ён загадаў ёй выбірацца прэч з кватэры, бо на яе месца мае іншую. Ударыла гэта яе, як гром з яснага неба: яе цэлае жыццё развалілася ў адну мінуту. Не мела куды пайсці, апусцілася ў навуцы. Калі паехала за дапамогай да бацькоў, тыя сказалі, што яна ўжо сабе выбрала дарогу самастойна і няхай цяпер і радзіць сабе самастойна. Пакінула бацькоўскі парог абяцаючы, што ніколі ўжо не вернецца. Крыху жыла ў акадэміку ў сяброўкі, давала карэпетыцыі, даглядала дзяцей, прыбірала ў людзей. Было ёй вельмі цяжка, але пастанавіла, што мусіць скончыць вышэйшую адукацыю. Нялёгка было і з кватэрай, але нарэшце ўдалося наняць танны пакойчык у адной пажылой жанчыны. Жанчына гэтая са спагадай занялася Яннай, памагла ёй прыйсці да сябе, ды пачала настаўляць::

— Марнуешся, дзяўчына, над гэтымі кнігамі; з тваёю прыгажосцю магла б лепш сабе ўладкаваць жыццё — не адзін за табою пабяжыць. — Бо гэта трэба рабіць з галавою: не хапацца за абы-якога бадзягу, але пашукаць сабе адказнага, сур'ёзнага мужчыну. Надта вялікую ўвагу адводзіш любові. Яна, як пудра — добрая, калі знойдзецца на твары, калі ж упадзе на вопратку — пэцкае яе. Прадумай гэта!

Спачатку Янна пускала гэтыя рады міма вушэй, але яны з часам дакучалі ёй штораз больш назойліва. У кватэру прыходзіла многа людзей, пераважна дарослыя мужчыны. Выпівалі каву, гарбату, вішнёвую настойку. Пані Ксеня — так называлася гаспадыня — расказвала гісторыі са свайго і сваіх знаёмых жыцця ды варажыла гасцям па картах.

Аднойчы пані Ксеня запрапанавала Янне паехаць на вяселле з адным з яе самотных знаёмых. Згадзілася, бо і што ёй перашкаджала? Калі выходзіла, пані Ксеня ёй падміргнула: Янна апусціла вочы.

Вяселле было вельмі багатае, мнагалюднае. Сябра Янны задбаў, каб яна адчувала сябе добра, быў ветлівы і сімпатычны; спадабаўся ёй. Падумала: чым жа ён горшы ад таго прайдзісвета, якому калісьці аддавала ўсё? Ноч правялі разам, любіліся да самай раніцы — у гэтых справах быў майстрам. Калі ранкам паклала руку ў кішэню плашча, знайшла звітак грошай. Быў гэта яе месячны заробак у студэнцкім кааператыве. Ї так пачалося. Спачатку прымала ўсялякіх мужчын, пасля — толькі пастаянных наведвальнікаў. Паплылі грошы. Хутка прыдбала сабе кватэру і выбралася ад пані Ксені, але часта да яе прыходзіла, каб пагутарыць ды параіцца ў розных справах. Вучобу не кінула, абараніла дыплом — „страхоўку" на будучыню. Ведала, што такое жыццё, як цяпер, мусіць калісь закончыцца.

Ї тады паявіўся наш амерыканец. Сустрэліся ва ўнівермагу. Госць хацеў купіць падаркі для сваіх сяброў у Амерыцы ды звярнуўся за парадай да прыгожай дзяўчыны, якая адразу яму спадабалася. Ї ён спадабаўся Янне: вясёлы, жыццерадасны. Не адступалі ад сябе да канца пабыўкі госця. Той доўга адкладваў выезд за акіян, але там чакалі яго абавязкі. Калі выязджаў, абяцаў, што прыедзе па яе. Так і сталася пасля двух месяцаў: Янна ні хвіліны не задумоўвалася — гэта быў яе вялікі шанц на нармальнае жыццё.

Мінулі тры гады. Аднойчы вечарам пазваніў тэлефон.

— Гэта я, Янна, — раздалося ў трубцы.

— Якая Янна? — спытаў я.

— Янна, — тут паявілася прозвішча нашага заакіянскага знаёмага, — хачу з табою сустрэцца. Я прыехала на пахаванне пані Ксені.

Змянілася, пасталела, выглядала інакш чым раней, але надалей прыгожа. З твару прамянела шчасце; на каленях трымала Тома-юніёра, які забаўляўся плюшавым мішкам.

— Вельмі хацела б цябе пабачыць: апроч пані Ксені толькі ты ведаў пра ўсё. Цяпер ужо яе няма.

Відаць было, што Янна цяжка перажыла смерць гэтай жанчыны. Тут, у Польшчы, яна была яе найбліжэйшай асобай. Там, далёка, мае любімага мужа і прыгожага малечу. Апошнім часам пачала працаваць у польскай школе, чым вельмі радуецца.

— Ведаеш, часта буджуся ноччу, аблітая потам. Увесь час паўтараецца той жа сон: нехта сказаў Тому пра маё мінулае. Баюся, але праз хвіліну ўсведамляю сабе, што гэта толькі сон.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# ПАСЛЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

## 9 лютага 1945 г.

У пуні пачуўся гоман, які разбудзіў нас: чуліся розныя дыялекты польскай і рускай моў. Паволі і мы выбраліся з сена і сышлі ўніз, у сад, дзе ўжо гарэлі вогнішчы і людзі рабілі сабе снеданне. Так як і ўчора Валянцін пайшоў у бок шашы, каб пашукаць ежы ў разбітых вазах, а я з Антонам распалілі вогнішча. Стаяў невялікі мароз і веяў слабы вецер з захаду. Салдаты хадзілі між вогнішчамі і выбіралі беларусаў на допыт. Спачатку яны прыслухоўваліся, хто і што гаворыць і бралі тых, хто ім больш спадабаўся ці паказаўся падазроным. Пры нашым вогнішчы найбольшым гаваруном аказаўся Валянцін. На допыце быў ён мінут з дваццаць. Расказаў ён лейтэнанту аб тым, як яго немцы арыштавалі, як ён сядзеў у Кёнігсбергу ў турме, як яго там каталі і як пасля выпусцілі. Лейтэнант быў недаверлівы, не мог сабе ўявіць, што немцы ўсё ж такі не саслалі яго ў канцэнтрацыйны лагер, а так проста адпусцілі. На развітанне сказаў, што вызве Валянціна яшчэ раз.

— Не трэба было мне прызнавацца, што я сядзеў у турме ў немцаў. Было б лепш, — гаварыў потым Валянцін.

Ні Антона ні Косцю на допыт не выклікалі.

Каля дванаццатай гадзіны ўсім нам загадалі выстраіцца ў шарэнгу ў чатыры рады, а лейтэнант сказаў так: „Всех, которых назовём по фамилии, просим выступить и стать ближе дома в следующий ряд". Ї пачаў ён вычытваць розныя прозвішчы, у тым ліку і маё. Такім спосабам сабралі 32 чалавекі. Астатнім сказалі разысціся, а нам, не дазволіўшы нават развітацца з сябрамі, загадалі ісці направа.

Ля невялікага става стаялі два рускія салдаты. Я пачуў, як адзін з іх сказаў другому, глянуўшы на нас: „Это, наверно, власовцы. Их ведут на расстрел". Але я не адчуў страху, хаця і не ведаў куды нас вядуць. Я не верыў, што гэта магло быць праўдай.

Мы вярталіся ў Зээбург. Цераз паўгадзіны мы дайшлі да нямецкіх казармаў. Там увялі нас у вялікую залу і загадалі: „Раздевайтесь совсем. Пойдёте в баню!" Пасля выстраілі нас голых у шарэнгу да медыцынскай камісіі. Тады толькі нам стала ясна, што нас бяруць у армію. У зале за сталамі сядзелі чатыры вайсковыя лекары. Усіх нас прынялі, нікому не адмовілі.

У зале, дзе мы распрануліся нейкі сяржант загадаў пакінуць сваю вопратку і ўзяць з сабою толькі дакументы ды паевў у склад з абмундзіраваннем. Там далі ваенныя штаны-галіфэ, гімнасцёрку, шынель, чаравікі, сарочку, кальсоны, анучы, абмоткі і шапку. Казалі нам іх мераць і, калі нешта вельмі не пасавала, дазвалялі памяняць. Потым завялі нас у другі будынак, у доўгі зал, дзе ля сцяны стаялі адна побач другой драўляныя нары без пасцелі. Калі кожны выбраў сабе месца, дзе будзе спаць, павялі нас у трэці будынак, у сталовую. Там нам далі гарачы абед: даволі смачны суп з хлебам і кашу з мясам.

Пасля абеду вывелі нас у адных гімнасцёрках на пляц, выстраілі ў шарэнгі, загадалі стаяць „смірна" і чакаць. Неўзабаве падышоў да нас нейкі маёр. Лейтэнант адрапартаваў яму і ён выступіў да нас з прамовай. Гаварыў, што мы маем шчасце, што айчына даверыла нам і прыняла нас у рады Савецкай Арміі, дзе мы можам памагчы дабіць ворага ў яго ўласнай бярлозе і адпомсціць яму за ўсе здзекі і нягоды, якія мы перажылі. Падкрэсліў прытым, што мы не штрафнікі, а звычайныя салдаты і за гэта мы павінны быць удзячны айчыне. Сказаў таксама, што цераз два дні мы прымем прысягу і будзем паўнацэннымі салдатамі. Перасцярог нас, каб мы не пілі невядомага алкаголю, бо вораг часта атручвае яго, і каб не гвалцілі немак, бо многія з іх могуць быць хворыя трыперам ці сіфілісам.

Трымаў ён нас на марозе мінут з дваццаць, так што стала нам холадна. Пасля мы ўжо пабеглі ў склад па вінтоўкі, а затым у залу, дзе паказвалі нам як імі карыстацца, і як іх чысціць. Павячэраўшы, мы леглі спаць на голых нарах, прыкрываючыся толькі шынялямі.

Ї так пачалося маё армейскае жыццё. На фронце я быў коратка, бо 28 лютага падчас артылерыйскага абстрэлу я быў паранены і папаўся ў ваенны шпіталь у Зээбургу, дзе пасля ачуньвання працаваў санітарам. Дэмабілізавалі мяне ў Бабруйску 30 снежня 1945 г., а 7 студзеня 1946 г. я ўжо быў дома.

# З МЕСЯЧНАГА КАЛЕНДАРА

**17—19.04. — Месяц у Раку.** Рак кіруе грудзьмі. Прымайце ванны з мінеральнымі солямі. Ванны з травамі дапамогуць вам амаладзіцца. Хвойныя і валерыянкавыя — увечары, рамонак і зверабой (святаянка) — днём і раніцай. Маскі на твар — тварожныя і малочныя. Ешце як найбольш садавіны і гародніны. Піце мала вады, каб не было ацёкаў. Асцярожна з ежай — магчымыя атручэнні. У гэтым знаку Месяц добра ўплывае на тыкву, гарбузы, дыню, кустовую фасолю, караняплоды, радыску і рэдзьку, памідоры і спаржу (шпарагі) — на ўсё, што адразу даецца да спажывання. Не сеяць і не саджаць нічога, што расце ўвысь — напр. уючуюся фасолю, люцэрну.

**19—21.04. — Месяц у Льве.** Кіруе спінай і пазваночнікам. Добры час для адпачынку. Давайце падарункі. Не купляйце вопраткі, абутку, купляйце біжутэрыю, касметыку, святочныя ўпрыгожанні. Добрыя дні для пасадкі дрэваў і кустоў. Будзьце асцярожнымі з вострымі інструментамі — матычкай, нажом, сякеркай, рыдлёўкай — у гэтыя дні лёгка параніцца, а гаіцца будзе доўга і цяжка.

**21—23.04. — Месяц у Дзеве.** Кіруе жыватом. Піце настоі на травах, галадайце, сядзьце на дыэту, масуйце пазваночнік. Добра заняцца працай у агародзе і ў полі. Добра садзіць кусты, дзікую ружу, бружмель, невысокія дрэвы. Карысныя дні для закладкі саду, парку. Вельмі добра будуць расці расліны з кветкамі, ад якіх не чакаем пладоў і ягад.

**23—24.04. — Месяц у Шалях.** Кіруе таліяй. Дні здароўя, красы, гармоніі. Старайцеся не нервавацца, не крычаць; рызыкуеце новымі маршчынамі. Раздражненасць можа прывесці да спазмаў сасудаў галавы. Піце адвар з мачагонных траваў, рабіце густыя пажыўныя маскі на твар. Добры ўплыў Месяца на пасадку бульбы, рэпы і спаржы, фасолі і гароху, вікі і сачавіцы, зернавых (пры ўмове, што Месяц не ідзе на ўбытак). Дрэвы і кусты саджаць, калі Месяца прыбывае.

**Нядзеля — 17.04. — 8 месячны дзень.** Сімвал — Фенікс.

Дзень добры для падарожжаў і пераезду, для людзей рызыкі і адданых справе. Супрацьпаказанні для кантакту з вадой. Добра пачынаць новае. Абмяжуйце сёння любоўныя справы. Дзіцё, народжанае ў гэты дзень, не будзе знешне прыгожым, і толькі дзякуючы талентам і працы будзе мець поспех у жыцці. Хваробы небяспечныя. Снам у большасці выпадкаў можна верыць.

**Панядзелак — 18.04. — 9 месячны дзень.** Сімвал — Кажан.

Закончце справы. Дзень ашуканства. Не займацца любоўнымі справамі. Лепш адкласці заручыны ці шлюб. У гэтым дзень нельга варажыць, кантактавацца з „тым светам”. Магчымае атручанне арганізма. Лепш пагаладаць, піце ваду. Дзіцё, народжанае ў гэты дзень, будзе мець доўгае і творчае жыццё. Хваробы могуць быць небяспечнымі, але не смяртэльнымі. Сны — здзяйсняюцца.

**Аўторак — 19.04. — 10 месячны дзень.** Сімвал — Фантан.

Добры для пачатку кожнай справы. Бяда і сум будуць кароткімі. Дзень звязаны з домам, сям'ёй. Калі вы задумалі будаваць дом, пачынайце сёння. Добра пойдуць справы ў бізнесе, рэкламе, паведамленнях пра новыя справы і ідэі. Сустрэньцеся са сваякамі, паладзьце канфлікты. Добры час для згоды. Хвораму даць хуткую і неабходную дапамогу. Сны — неістотныя.

**Серада — 20.04. — 11 месячны дзень.** Сімвал — Карона альбо Вогненны Змей.

Дзень звязаны з касмічнай сілай кундаліні і ўвогуле з касмічнай энергіяй. Дзень перамогі і несмяртэльнасці. Добра выбрацца ў дарогу, начаць доўгае падарожжа. Не сядзець на адным месцы. Добры дзень для сексу. Добра пагаладаць. Хваробы — небяспечныя для жанчын. Дзіцё, народжанае сёння дажыве да глыбокай старасці.

**Чацвер — 21.04. — 12 месячны дзень.** Сімвал — Чара альбо Сэрца.

Дзень вешчых сноў. Дзень кепскі. Нічога не прадпрымаць, бо ўсё прынясе толькі страты. Дзень неадпаведны.для актыўнасці. Выкажыце сяброўства, міласэрнасць. Добры час для лячэння галадоўкай, вадой, купаннем, нават у крыніцах. Хто не прысвечаны варажбам, не павінен гэтага рабіць ні для сябе, ні для іншых. Варажыць пасля захаду сонца ці поўначы; нельга ў час навальніцы, непагадзі, а найлепш пры зорным небе. Галоўнае — каб не ішоў дождж і не свяціла яркае сонца.

**Пятніца — 22.04. — 13 месячны дзень.** Сімвал — Кола.

Дзень няўдачы. Нічога не пачынаць. Адкладзіце заручыны, шлюб, каханне і знаёмствы! У гэты дзень сітуацыі паўтараюцца. Не рвіцеся ўперад; лепш азірнуцца назад. Дзень крытычны. Не завяршайце спраў, Асцерагайцеся крыві. Сны амаль усе здзяйсняюцца.

**Субота — 23.04. — 14 месячны дзень.** Сімвал — Труба альбо Лабірынт.

Дзень добры для службовых сустрэч і паездак, але трэба быць асцярожнымі, каб даваць добрую ацэнку рэчаіснасці. Слухайце парад і інтуіцыі. Добры дзень для хобі і любімых заняткаў. Можна варажыць. Усе хваробы будуць без сур'ёзных наступстваў. Сны фальшывыя. Дзіцяці, якое народзіцца сёння, будзе спрыяць лёс.

**(М)**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. чарнаморскі паўвостраў, 8. статак коней, 9. знявага, 10. галоўны кампанент паветра, 11. дакумент прыналежнасці да арганізацыі, 13. паласа выробленай скуры, 15. эпоха Адраджэння (XIV—XVI ст. ст.), 16. грамадская група ў Індыі, 20. ядавітая балотная расліна, 22. склад супрацоўнікаў установы, 23. масавая ўзброеная барацьба, 27. на ім гронкі смачных ягад, 29. металічны грош, 30. склон, 31. другая літара грэчаскага алфавіта, 32. частка нагі, 33. пасудзіна для яды, 34. кандытарскі выраб з крэмам.

**Вертыкальна:** 1. невялікае памяшканне для спецыяльных мэт, 2. аўстрыйскі кампазітар (1797—1828), 4. шпіянаж, 5. горы ў Венгрыі, 6. нямецкі кампазітар (1833—1897), 7. не ноч, 12. геадэзічны інструмент для вымярэння вуглоў, 14. збіральнік і прадавец старыны, 16. міжземнаморская выспа, 17. хімічны элемент, жоўтае гаручае рэчыва, 18. жоўтая вадкасць, якая паўстае пры нарывах, 19. сталіца Ганы, 21. від кракадзіла, 24. каханак Афрадыты, 25. даглядае дзяцей, 26. старажытная прылада, якой разбівалі сцены, 27. рухае яхты, млыны, 28. удары ў звон для збору людзей пры бедстве.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 9 н-ра:**

**Гарызантальна:** Хакслі, Марока, сафары, Ліда, Рыла, праваслаўе, хаос, рака, лакаут, Індура, Окленд.

**Вертыкальна:** хадулі, ліса, мары, капэла, фантастыка, дапрос, Рыўера, Харбін, Каканд, Лара, уток.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока, якому заадно дзякуем за заўвагі наконт крыжаванкі з 5 н-ра. Пры нагодзе паясняем, што ў беларускай мове старажытнагрэчаская багіня перамогі называецца таксама і **Ніка**, што можна праверыць у „Беларускай савецкай энцыклапедыі”, том 7, стар. 514. Найдрабнейшая часцінка хімічнага элемента, як Вы слушна заўважылі, называецца **атам**, а іншае напісанне гэтага слова было толькі вынікам карэктарскага недагляду, за што чытачоў перапрашаем.

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Сніліся мне ў адну ноч два сны, якія мяне вельмі непакояць. У першым сне бачу ў нейкім вясковым пакоі (незнаёмым) сваю маці-нябожчыцу. Яна нядаўна памерла. Але тут яна жывая.

Пасярэдзіне хаты, на падлозе ляжыць свежае мяса нядаўна заколатага вепрука. Яно разложана адным вялізным пластом, як бы знятая скура з салам. Мяса амаль не відаць, усё тлустае. Маці сядзіць на падлозе каля гэтага мяса і загортвае ў марлю вялікія шынкі (яны таксама нейкія белыя, быццам з аднаго сала), якія яна ўжо пасаліла і збіраецца капціць.

Што датычыць другога сну, дык бачыла я дзве лесвіцы. Спачатку іду па адной наверх. Яна нейкая чорная, вядзе мяне нейкі мужчына. Я ведаю, што мне будзе цяжка ўвайсці наверх, хаця фізічна я адчуваю сябе даволі нармальна. Дык я рашаю не ісці далей, паварочваю ў другі бок і там бачу нейкую лесвіцу. Яна вядзе ўніз, а колер яе белы. Я пачынаю лёгка сыходзіць, а вядзе мяне нейкі ні то хлапчук, ні то анёлак.

**Агата**

Агата! Першы твой сон абазначае клопаты і смутак у сувязі, бадай, з нейкай хваробай (маці, сырое мяса).

Што датычыць другога сну, дык ён як бы пацвярджае першы, канстатуючы, што ў тваім жыцці ёсць нейкія цяжкасці (тая чорная лесвіца, што вяла наверх), але і дае надзею, што хутка гэтыя цяжкасці скончацца, бо ты знайшла белую лесвіцу, па якой лёгка сыходзіла ўніз, а вёў цябе хлапчук-анёлак, які прадвяшчае табе вяртанне да душэўнае раўнавагі.

**АСТРОН**






*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ВЕЛІКОДНАЯ БАБКА**

Прадукты:
*1 кг добрай мукі,*
*1,5 шклянкі цёплай вады ці малака,*
*5 дэкаў дражджэй,*
*3 яйкі,*
*1/2 пачкі масла (125 г),*
*10 дэкаў цукру,*
*10 дэкаў разынак,*
*1 скурка з апельсіна, тоўчаная карыца (цынамон) і т.д.*

Муку, пакрышаныя дрожджы, цёплае малако ці ваду, яйкі, топленае масла, цукар, разынкі і прыправы старанна перамяшаць, накрыць сціраччкай і паставіць у цёплае месца да наступнага дня.

Назаўтра вылажыць падросшае цеста на дошку, добра вымясіць. Разлажыць цеста ў невысокія, змазаныя тлушчам і пасыпаныя цертай булкай формы (да 2/3 вышыні), паставіць, каб цеста падрасло. Калі ўжо падрасце, змазаць бабы збітым яйкам. Пячы каля 40 мінут.

**ГАСПАДЫНЯ**




**“Niwa”**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

## ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

### ЧАРОЎНЫЯ СЛОВЫ

Беларускі паэт Алесь Барскі жыве ў Польшчы. Як гжэчны мужчына, ён любіць сказаць жанчыне прыемныя словы, заўсёды падкрэсліць, што яна прыгожа выглядае. У адзін з прыездаў у Мінск Барскі зайшоў у Інстытут літаратуры. Бібліятэкарцы ён не прамінуў сказаць: „Пані прыгожа выглядае". Уражаная, яна пабегла пахваліцца машыністцы. А тая здзівілася: „Толькі што ён мне сказаў тое самае".

### КОЛЬКІ МОЖНА НАПІСАЦЬ ВЕРШАЎ ЗА МЕСЯЦ?

Беларускія пісьменнікі запрасілі ў дом творчасці „Іслач" аднаго паэта *) з-за мяжы, каб ён там папрацаваў. Напрыканцы месячнага тэрміну паэт прыйшоў у Саюз пісьменнікаў і пахваліўся, што напісаў там ажно сто пяцьдзесят вершаў.

— А пра што яны? — пацікавіўся нехта.

— Усё пра лес, — адказаў паэт.

Максім Танк не вытрымаў:

— Дык у іслацкім лесе дрэў куды больш за сто пяцьдзесят! Калі пра кожнае дрэва напісаць, ого колькі вершаў было б!

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ („Полымя")**

---

*) *„Ніўка" мяркуе, што гэтым паэтам мог быць Алесь Барскі, паколькі на літстаронцы пісаў ён: „Цыкл ста пяцідзесяці вершаў „Іслачанскія задуменні" ўзнік у жніўні 1988 года ў часе майго двухтыднёвага прабывання ў Доме творчасці „Іслач" Саюза пісьменнікаў БССР". („Ніва" н-р 22 ад 3.06.1990 г.).*







Мал. П. Козіча

## СЕНТЭНЦЫІ

Над прорвай і леў хвост падтуліць.

* * *

Інтымнасць — гэта папілярная лінія чалавечай душы.

* * *

Забітая праўда ляжыць пад саванам хлусні.

* * *

Вядомае абуджае давер, невядомае — боязь.

* * *

Алергічнае слова ўсыпляе розум.

**БАРЫС РУСКО**

## ЧЫМ КОНЧЫШ?

Ты, пазычыўшы ў сабакі вачэй,
Ды і голас пераняўшы сабачы,
Чэрніш, брыдзіш як мага, як брыдчэй
І жыццё маё, і плён, і няўдачы.

Ну, кусай, кусай злосней, балючэй —
Па заслугах будзе ў Бога адзнака:
Пазычаючы ў сабакі вачэй,
Ты і кончыш не інакш як сабака.

**НІЛ ГІЛЕВІЧ**

## МІЖ НАМІ

— Юркава Анюта нарадзіла сына.

— Што ты кажаш? Іх вяселле было ж на другі дзень Каляд, а сёння тыдзень да Сёмухі!

— Цяпер жанчыны разумнейшыя, хітрыя, не так, як калісь: насіць у сабе дзіця поўныя дзевяць месяцаў! Цяпер хоць першым ходзяць месяцы тры, чатыры, а хоць бы і два!

* * *

— Ты так брыдка апрануты. Паліто ў цябе выглядае так, быццам зняў яго з маці.

— Яно і ёсць маміна. А калі табе не падабаецца, магу заўтра прыйсці ў бацькавым.

* * *

Стаіць у парку дзевяцігадовы хлопчык і плача.

— Чаму ты плачаш? — пытаецца ў яго мужчына.

— Сабака ў мяне ўчора памёр.

— Вось дык бяда! Я тыдзень таму пахаваў майго тату, а вось, бачыш, ужо не плачу...

— Калі б вы яго гадавалі ад малога, то таксама плакалі б!..

* * *

Да каменданта паліцыі прыйшла жанчына.

— У чым справа? — пытаецца паліцыянт.

— Прывядзіце мне дадому Зянона С.

— Гэта ваш муж?

— Не. Толькі я хачу, каб ім быў, бо ён мне... з характару падабаецца.

* * *

— Сто тысяч сёння — гэта многа, ці мала? — пытае Коля Валодзю.

— Калі табе іх даюць, гэта нуль, але калі ты камусьці — надта ж многа!

* * *

— Ты так змяніўся, любы, — кажа жонка мужу, — а перад шлюбам усё даваў мне падарункі, насіў мяне на руках...

— А хто бачыў, каб рыбак карміў чарвяком рыбку, калі яе ўжо зловіць?

* * *

— Хто ў вас у хаце найважнейшы? — пытаюцца ў малога Томуся.

— Наш паўгадовы Юлісь. Як толькі закрычыць, то ўсе да яго бягуць і стараюцца дадумацца, чаго ён хоча.

* * *

— Чаму гэта наш дзядзька Марцін усё нешта здае ў нейкім кіёску і чагосьці чакае, а потым наракае, што ў яго няма шчасця і дарма толькі грошы траціць? — цікавіцца шасцігадовы Дарэк.

— Замалы ты, каб зразумець гэта. Дзядзька гуляе з „Тата-лёткам".

— Не, я разумею: дзядзька дае тату Лётка грошы, а той яму не аддае!

**АЎРОРА**

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(праця г; пачатак у 40 н-ры за мінулы год)*

### ПОМНІКАВЫЯ ЗДАНІ

### Прывід беларускае мовы

Гэты прывід таксама можна аднесці да помнікавых — калі ўзяць на веру сцвярджэнне, што мова таксама помнік, толькі не матэрыяльны...

Яшчэ з сярэдзіны шасцідзесятых гадоў на чыгуначным пераездзе бліз слаўтага горада Магілёва працаваў пуцявым абходчыкам нехта Дж. У ягоны абавязак, між іншым, уваходзіў і догляд перасцерагальных шыльдаў. Дж. быў у роспачы — у шыльдзе „БЕРЕГИСЬ ПОЕЗДА" ў апошнім слове кожны раз самі па сабе знікалі літары „О" і „Е", а замест іх выяўлялася літара „И". Пуцявы абходчык лічыў, што гэта — справа рук непаўналетніх хуліганаў, але ніяк не мог іх злавіць. Куды ён толькі не звяртаўся — і ў міліцыю, і ў пракуратуру, просячы злавіць невядомых аматараў дурных жартаў, але ўсё было дарэмна.

Некалькі гадоў таму да Дж. прыехаў на адпачынак пляменнік, студэнт філалагічнага ўніверсітэта. Узяўшы з дзядзькам чарку, студэнт сказаў, што гэтая падмена, відавочна, не можа быць вытлумачана рацыянальна, бо тут, хутчэй за ўсё, дзейнічаюць не людзі, а нейкая здань. Хлопец-філолаг выказаў меркаванне, што гэта, напэўна, здань беларускай мовы — загнаная ў выніку прымусовай двухсотгадовай русіфікацыі ў далёкія вёскі. Філалагічная здань, выходзячы на свет, такім чынам помсціць мове-заваёўніку за нанесеныя крыўды.

Абходчык палічыў словы пляменніка сумным жартам, але на ўсялякі выпадак паслухаўся больш адукаванага маладзёна і раніцою змяніў шыльду на беларускую „СЦЕРАЖЫСЯ ЦЯГНІКА". Натуральна, дурныя жарты пасля гэтае замены ўмомант скончыліся.

Апошнім часам, з цягам павольнае беларусізацыі прывід беларускае мовы паціху выходзіць са свайго сховішча, — прынамсі, тыя ж шыльды ў Беларусі хоць і марудна, але ж замяняюцца на напісаныя тутэйшаю моваю. Расейская мова на шыльдах ды ўказальніках крыху адыходзіць назад, не губляючы пры гэтым сваёй агрэсіўнасці...

Так, напрыклад, дарожная шыльда з назовам вёскі „ПЛЕБАНЬ", што на Нарачы, увесь час губляе літару „Л"; замест яе штораз з'яўляецца вялікая чырвоная літара „О". Зданезнаўцы мяркуюць, што мова Мураўёва-Вешальніка і Леніна, паволі набываючы якасць прывіда, такім чынам помсціць мове тутэйшага народа.

Падобныя дробныя, але, усё ж такі малапрыемныя эпізоды, зданезнаўчафілалагічнага кшталту яшчэ раз пераконваюць у відавочнае шкоднасці гэтак званага „двухмоўя"...

*(праця г будзе)*

**Падрыхтавалі ФРАНЦІШАК ХЛУС і МАРЦІН ЮР**




Сэрцайка! Пішучы пра адну з сваіх сябровак, я адразу хачу цябе папярэдзіць, што і я не святая. Бывала я ў розных кампаніях і бачыла рознае. Людзі гутарылі, смеючыся расказвалі анекдоты, выпівалі, танцавалі, цалаваліся, прытуляліся. Але ўсё гэта рабілася неяк з тактам, сімпатычна. Палякі кажуць пра такое, што рабілася яно „z wdziękiem". Тое, што задэманстравала адна са знаёмых у кампаніі хлопцаў з Захаду, радыкальна змяніла маё ўяўленне пра такія спатканні.

Кампанія была не зусім выпадковая, бо ўсе мы прыехалі ў іншы горад на з'езд. Ведала я аднак толькі адну сяброўку, якая са мной працавала. А яна ўжо ведала тых трох іншых дзяўчат, што апынуліся ў гэтай кампаніі. Дзве з іх былі маладзейшыя і паводзілі сябе зусім нармальна. Горш было з трэцяй, крыху старэйшай, якая была разводкай і мела дзіця. Яна ніяк не магла ўгаманіцца: чаплялася да кожнага хлопца, які толькі зайшоў у гэты пакой гатэля, а тыя толькі спаглядалі на яе і ўсміхаліся. Нарэшце затрымалася пры адным. Напэўна не быў ён найцікавейшым, але пазітыўна зарэагаваў на яе „пяшчоты".

Ну, і пачалося. Чаго яна не рабіла! Ён сядзеў як слуп, а яна яго гладзіла па грудзях, расшпіліўшы кашулю, усаджвала туды галаву (штораз ніжэй), а тады сышла „на партэр". Націскала на яго распорак, трымаючы там руку, цалавалася з хлопцам „узасос". Усім відаць было, як у распорку гэтым станавілася цесна, і тады яны ўставалі і выходзілі ў іншы пакой, даючы ўсім зразумець, што для завяршэння „справы". Суправаджаў іх гучны смех хлопцаў-загранічнікаў, сяброў гэтага хлопца.

За вечар штосьці падобнага паўтарылася прынамсі тры разы. Кожны раз яны акуратна вярталіся ў кампанію з пакоя таго хлопца і праз нейкі час ізноў пачыналі сваю любоўную гульню. Сталіся яны атракцыяй гэтага спаткання і хлопцы быццам толькі чакалі, што будзе наступным разам. Але нічога новага не было: былі пяшчоты зверху ўніз, а пасля яны выходзілі. Хлопцы мелі прычыну для рогату.

Пытаюся, Сэрцайка: калі гэтай пары было разам так добра, дык чаму яны не засталіся ў яго пакоі і не кахаліся там да раніцы? Ці мусілі вяртацца ў пакой, дзе сядзела цэлая кампанія, і рабіць з сябе пасмешышча? Ці не прыйшло ім у галаву, што не ўсім было прыемна аглядаць, як дзяўчына лезла ў задніцу хлопцу толькі таму, што ён прыехаў з Захаду і мог бы забраць яе туды?

На жаль, паехаў і нават не напісаў ёй...

**Аня**

Аня! Тут, відаць, быў не адзін чыннік, які кіраваў паводзінамі гэтай, як-ніяк, жанчыны. Першая: сапраўды справа заходу. Яна ж была разведзеная, з дзіцём, а можа ж бы той хлопец яе палюбіў і ўзяў з сабою?

Другое: яна, як відаць з твайго апавяду, яго „абрабляла", а ён сядзеў „як слуп" і толькі „рэалізаваўся" ў іншым пакоі. Пасля хацеў ізноў у кампанію.

Трэцяе: а можа, калі б яны былі адны ў пакоі, дык да нічога і не дайшло б. Можа ім патрэбны былі гледачы, поўная аўдыторыя — і толькі тады яны мелі сексуальную сатысфакцыю...

А па шчырасці скажу табе: у кожнай кампаніі здараецца чорная авечка, проста гэтыя людзі нічога адно да другога не адчувалі. Рабілі тое, што рабілі: адна — для інтарэсу, другі — каб не траціць час дарма.

**СЭРЦАЙКА**